PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 26 (2146) Год XLII Беласток 29 чэрвеня 1997 г. Цана 1 зл.



*Людка Сільнова прэзентуе эксперыментальную літаратуру. Пра семінар „Бязмежжа" чытайце на стар. 5.*

# Словы ў голым полі

## *Аб новых каардынатах беларускай літаратуры*

Time the destroyer is time the preserver.
Thomas Stearns Eliot, *The Dry Salvages (1941)*

Ян Максімюк

Пасьля лукашэнкаўскіх рэфэрэндумаў 1995 і 1996 гг. стала ясна, што ў беларускай літаратуры, калі яна мае выжыць і запэўніць сабе яшчэ нейкую будучыню, мусяць наступіць кардынальныя зьмены. Старая (гэта значыць, савецкая) літаратура, якая самой сілай інэртнасьці магла яшчэ працягнуць два-тры дзесяткі гадоў у сувэрэннай Беларусі (тым больш, што на схіле 80-тых і ў пачатку 90-тых яна атрымала дадатковы „адраджэнскі штуршок"), усяго за два гады страціла грунт пад нагамі й эстэтычныя арыенціры.

Па-першае, дзяржава адмовілася ад фінансавай падтрымкі літаратуры, гэтым самым паставіўшы беларускае прыгожае пісьменства перад агаленымі анталягічнымі пытаньнямі: быць ці ня быць і якім жа чынам? У шырэйшым кантэксьце, дзяржава цалкам адмовілася ад падтрымкі нацыянальнага мастацтва й культуры як праяваў нацыянальнай самаідэнтыфікацыі й як своеасаблівай культурнай вязі для змацаваньня палітычнага рэжыму. Гаворка тут ідзе не пра псэўданародныя спэктаклі на інтэлектуальным узроўні калгаснага дому культуры (кшталтам „Славянскага базару") альбо настальгічныя рэцыдывы брэжневізму (прыкладам, афіцыйнае адзначэньне Менскам юбілею савецкага сьпевака Кабзона і г.п.), а пра тое, што было найгалоўным аргумантам беларускай культурнай апрычонасьці ў савецкую эпоху — беларускую літаратуру, тэатар, кінэматограф. Спробы пераарыентацыі постсавецкай культурнай інфраструктуры на абслугоўваньне новай дзяржаўнай ідэалёгіі — панславізму — наступілі яўна запозна, калі асноўная маса нацыянальнай творчай інтэлігенцыі адчула сябе глыбока зьняважанай пастанай рэжыму і духоўна прыгнечанай вынікамі рэфэрэндуму, які нанава змаргіналізаваў беларускую мову й адкінуў сымбалі сьвежа набытага сувэрэнітэту. Гэтыя факты моцна спрычыніліся да таго, што сёньня зьвява духоўнага канфармізму і калябарацыянізму з рэжымам сярод творчай інтэлігенцыі ў Беларусі выступае ў даволі абмежаваным абсягу. Можна сказаць, што рэжым сам сабе адрэзаў шлях да сфармаваньня істотнай праслойкі прыслужнікаў у сфэры культуры, гэткім чынам даўшы беларускай інтэлігенцыі гістарычны шанец рэабілітацыі свайго жыцьцяпісу з савецкага часу. У агульнай выснове, гэта аптымістычная прыкмета лукашэнкаўскага пэрыяду.

Па-другое, лукашэнкаўская эпоха стала, калі можна так выказацца, трансцэндэнтным завяршэньнем разьвіцьця беларускай савецкай літаратуры. У постаці першага прэзыдэнта ў літаральным сэнсе матэрыялізаваўся ідэал героя сацрэалістычнай эстэтыкі, выяўленьнем якога шматпакутна займаўся інтэлектуальны авангард нацыі. Жыцьцё, як заўсёды, выказала большую фантазію за самую літаратуру, агольваючы ўсю ейную (літаратуры) непрывабнасьць і мізэрнасьць. У Беларусі наступіў ня крызыс літаратурнай эстэтыкі ці крызыс нейкага жанру, а проста крызыс рэчаіснасьці, якая ня здолела супрацьстаяць перанасычанасьці беларускай экасфэры эстэтычным флюідам і пераўтварылася ў нейкую паралельную (ці віртуальную) мэтафікцыю. Беларуская савецкая літаратура страціла свой асноўны рухавік — упэўненасьць у недасяжнасьці й незьдзяйсьняльнасьці сваіх эстэтычных ідэалаў. Прынамсі адзін ідэал быў дасягнуты й нават перадасягнуты, і белсаўлітаратура памерла ад жаху самазьдзяйсьненьня. *За что боролись, на то напоролись.* Гэта, у гістарыч-

[працяг ☞ 8]

# Стратэгічнае пагадненне

15 чэрвеня г.г. у Варшаве было падпісана пагадненне паміж Беларускім саюзам і Уніяй працы. Дамова прадбачвае стратэгічнае супрацоўніцтва паміж дзвюма арганізацыямі ў галіне так палітычных, як і культурных дзеянняў.

У гэтым годзе кандыдатам у паслы са спіска Уніі працы ў Беластоцкім ваяводстве будзе балаціравацца старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа. Зойме ён другое месца, зараз пасля шэфа акругова аддзела гэтай партыі Артура Смулкі. Яўген Вапа, паводле падпісанай дамовы, атрымае таксама высокае, 12 месца, на краёвым спіску Уніі працы.

Незалежна ад вынікаў сёлетніх парламенцкіх выбараў Беларускі саюз і Унія працы прадбачваюць далейшае супрацоўніцтва з увагі на шмат супольных пунктаў у праграме абедзвюх арганізацый. Спалучае іх перш за ўсё заклапочанасць тэмпамі пашырэння сферы беднасці і несправядлівасці, што асабліва відаць на Беласточчыне. Невялікі працэнт грамадства жыве ва ўмовах неабмежаванага дабрабыту, побач штораз шырэйшага круга людзей, якія апынуліся за рысай сацыяльнага мінімуму. Цераз некалькіх апошніх гадоў прадстаўляючая апарат улады і ўсялякіх камбінатараў група, без ніякага намагання і рызыкі, пераўтварылася рап-там у клас багацеяў. Беларусы на Беласточчыне гэта грамадскасць наогул не надта заможная, таму Унія працы, як адзіная партыя, якая звяртае ўвагу на сітуацыю бяднейшай часткі грамадства, з'яўляецца як бы натуральным саюзнікам нашага асяроддзя. Прытым партыя гэта прынцыпова выступае за захаванне аднолькавага парытэту ў палітыцы дзяржавы ў адносінах да ўсіх веравызнанняў і нацыянальнасцей. У выпадку праваслаўных, у знакамітай большасці беларусаў, гэты факт мае важнае значэнне.

Дзеячы Беларускага саюза падчас перамоваў з Уніяй працы не скрывалі, што сярод беларусаў найбольшую падтрымку меў заўсёды Саюз левых дэмакратаў, які ў гэтым годзе паставіў на сваім спіску лідэра БГКТ Яна Сычэўскага. Аднак падпісваючы пагадненне, якое мае трываць даўжэй чым выбарчая кампанія, абодва бакі былі свядомыя, што ўплывы СЛД, як партыі банкіраў і дзяржаўныхураднікаў, раней ці пазней будуць паменшвацца таксама і ў беларускім асяроддзі.

У 1990 годзе былі спробы супрацоўніцтва беларускага дэмакратычнага руху з Уніяй дэмакратычнай (цяпер Унія вольнасці), але тады польскія дэмакраты пабаяліся адмоўнай рэакцыі свайго электарату на сам факт супра-

[працяг ☞ 3]

# Мы прачыталі

*З боку ўлад Беларусі відавочнае імкненне зрабіць з Пятра Машэрава, былога сакратара Кампартыі ў Мінску, „маленькага беларускага Леніна".*

*Свабода, н-р 58*

Пятро Машэраў знішчыў амаль усе гістарычныя помнікі ў сталіцы Беларусі. Тым самым, як кандыдат на апостала Лукашэнленда, ён проста знакаміты.

* * *

*Президент любит при случае заявить, что не допустит, чтобы белорусы военную службу выполняли за пределами республики. Чего здесь больше — трогательной наивности или махрового цинизма? Стоимость одного килограмма колбасы выше цены слова сегодняшних правителей Беларуси. Их слово вообще ничего не стоит. Тое, что в 90-е годы Беларусь не получила цинковых гробов, это достижение белорусской государственности. Именно она — слабая, беззащитная, оплёванная, а не дышащие ненавистью ветераны — генералы и надувающие щёки политиканы — спасла жизнь десяткам белорусских парней.*

*Свободные новости, н-р 10*

* * *

*W pierwszym kwartale wynagrodzenie w gospodarce przekroczyło 1 000 zł. Największymi przeciętnymi zarobkami legitymują się pracownicy przedsiębiorstw należących do sektora publicznego. Tradycyjnie na czele listy są górnicy (1 787 zł średnio) reprezentujący branżę przynoszącą największe straty. W górnictwie zarobki wszystkich grup zawodowych są wyższe od przeciętnych. Szczególnie wysoko opłacana jest kadra kierownicza i inżynierska. Dyrektorzy spółek węglowych dotowanych z budżetu państwowego zarabiają miesięcznie średnio 25 000 nowych złotych.*

*Przykład górnictwa jest dobrą ilustracją tezy, iż poziom wynagrodzeń, zwłaszcza w sektorze publicznym, jest luźno związany z rynkową wartością pracy. Takich przykładów jest więcej: w ubiegłym roku zarobki pracowników przemysłu tytoniowego wzrosły o 31 proc., przy jednoczesnym spadku produkcji o 4 proc. Liczy się przede wszystkim reprezentacja branży w życiu politycznym oraz tupet działaczy związkowych.*

*Polityka, nr 23*

* * *

*W Gołdapi koń przekroczył granicę Obwodu Kaliningradzkiego. Zwierzę, mimo próby zatrzymania przez pograniczników, pogalopowało w głąb Rosji. Nadbiegający do przejścia granicznego koń wzbudził ogólny popłoch. Do tej pory koń nie powrócił do kraju.*

*Kurier Poranny, nr 133*

Цікава, што такое не спадабалася жывёліне ў Польшчы?

* * *

*— Czy w obecnych czasach politycy odbierają chleb satyrykom?*

*— Częściowo pomagają nam nawet w pracy. Różnica między tym co jest obecnie, a czasami wcześniejszymi polega na tym, że poprzedni system uprawiał politykę głupców zakamuflowanych. Przejść przez ten kamuflaż było bardzo ciężko. Oczywiście poza ewidentnymi przypadkami, takimi jak Babiuch czy Ochab, gdzie głupota była wypisana na twarzy. Natomiast w chwili obecnej mamy szeroki dostęp do głupoty. Weźmy choćby takie sprawy, jak ostatnie dyskusje na temat psów czy telefonii komórkowej. To jest żywy skecz. Komunizm, jak mówiłem, preferował głupotę utajoną, a wraz z nastaniem demokracji wyszło na jaw, a wszystko jest jak było,* — сказаў сатырык Кшыштаф Даўкшэвіч.

*Kurier Poranny, nr 130*

* * *

*Po PRL-u zostały nam nie tylko nierentowne kopalnie, huty, fabryki, lecz także biurokratyczne struktury, czyli po prostu ludzie, którzy nie wykładali własnych pieniędzy, niczego nie produkują, lecz uwłaszczają się na nie swoim majątku. Na przykład spółdzielnie mieszkaniowe, które nie mają niczego wspólnego z normalnymi spółdzielniami. Były to biurokratyczne twory, tworzone przez władze. Władza decydowała co, gdzie, jak i kiedy budować. Ludzi przydzielano do spółdzielni, narzucano im lokalizację, typ mieszkania. A ludzie chcąc gdzieś mieszkać podpisywali papiery urągające elementarnym zasadom prawa i poczuciu przyzwoitości. PRL-u już nie ma, ale spółdzielnie mają się dobrze, a prawo spółdzielcze nadal obowiązuje. Mieszkańcy, jak dawniej, zmuszani są do płacenia haraczu na prezesów, kierowników i ich sekretarki, którzy tak naprawdę do niczego nie są potrzebni.*

*Gazeta Wyborcza, nr 130*

* * *

*Europejscy łowcy głów polowali w dorzeczu Konga i w całej Afryce na niewolników, których z zyskiem sprzedawali w portach nad Atlantykiem i Oceanem Indyjskim. Afrykanie zostali odczłowieczeni, stali się towarem, takim samym jak poszukiwana w Afryce kość słoniowa, diamenty czy złoto. Kryli się w lesie przed myśliwymi z Europy jak zwierzęta. Ta epoka, wstydliwie przemilczana przez chrześcijańską Europę, zabiła Afrykę, odebrała jej godność, tożsamość i pamięć.*

*Gazeta — Magazyn, nr 23*

Ці было дзе-небудзь столькі варвараў, як у Еўропе? Хіба толькі ў Амерыцы, пасля правядзення там еўрапейцамі генацыду карэнных жыхароў. Сёння нашчадкі варвараў нешта балбочуць аб еўрапейскай цывілізацыі, як аб нечым крайне дасканалым.

# З мінулага тыдня

**Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій** пабываў у Лісабоне, дзе ўдзельнічаў у інтранізацыі архіепіскапа **Іаана**, які кіруе часткай Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Партугаліі. Перад гэтым удзельнікі памеснага сабора (больш чым 200 чалавек — епіскапы, свяшчэннікі, манахі і свецкія дэлегаты) аднадушна выбралі сваім архіпастырам 32-гадовага іерарха.

**У Дзень Сятога Духа** архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава** высвяціў іканастас у Свята-Духавай царкве ў квартале Антонюк у Беластоку. Пяціярусны іканастас вышынёю ў 15 метраў выразалі ў дубовым дрэве пяць мастакоў з Пачаеўскай лаўры паводле праекта **Дзмітрыя Файко** і пад кірункам **Алега Гагалюга**. У іканастасе змешчаны 35 ікон напісаных двума мастакамі з Менска. Свята-Духава царква на Антонюку — самы вялікі праваслаўны храм у Польшчы.

**Славаміра Адамовіча**, аўтара верша „Убей президента", суд у Віцебску прыгаварыў да дзесяці месяцаў турэмнага зняволення. Паэта абвінавацілі ў публічным закліканню да забойства прэзідэнта Беларусі **Аляксандра Лукашэнкі** і ў спробе нелегальнага перасячэння дзяржаўнай мяжы. Паэт, аднак, не пойдзе ў турму, пакольки ўжо дзесяць месяцаў праседзеў у следчым ізалятары.

**Ваяводскі выбарчы штаб СЛД** саставіў спісак з 14 кандыдатаў у Сейм з Беластоцкага ваяводства. Спісак адкрывае прэм'ер **Уладзімеж Цімашэвіч**. Балацiравацца будуць таксама цяперашнія парламентарыі **Мар'ян Пецка** (3 месца), **Сяргей Плева** (4), **Станіслаў Малішэўскі** (7) і старшыня БГКТ **Ян Сычэўскі** (5).

**Беласток** стане членам арганізацыі „Поліс" — вырашылі дэпутаты Рады горада. Еўрапейскае згуртаванне гарадоў, рэгіёнаў і рэгіянальных арганізацый „Поліс" узнікла ў 1989 годзе і гуртуе 45 гарадоў і рэгіёнаў Еўропы, у тым ліку Амстэрдам, Афіны, Берлін, Парыж, Брусель, Мадрыд і Турын. Гэтая арганізацыя супрацоўнічае з установамі Еўрапейскага Саюза. Мэтай „Поліса" з'яўляецца развіццё транспарту ў гарадах, паляпшэнне дарожнай бяспекі і змяншэнне адмоўнага ўплыву развітага дарожнага руху на натуральнае асяроддзе. Членства ў гэтай арганізацыі будзе каштаваць гарадскую касу 2 700 зл. у год.

Многія калектывы нацыянальных меншасцей Беласточчыны, а таксама групы з Літвы, Калінінградскай вобласці Расейскай Федэрацыі, Гродзенскай вобласці Беларусі і Шлёнска прымалі ўдзел у **II Фестывалі дзіцячых фальклорных калектываў нацыянальных меншасцей у Вэнгажэве**. Беларускіх школьных самадзейнікаў прадстаўляў калектыў **„Лісічкі" з Ласінкі**. Юныя артысты выступілі таксама з канцэртамі ў Пазэздзы, Сроkаве, Круклянках і Банях-Мазурскіх.

**У Акруговым музеі ў Беластоку** адкрылася выстаўка „Апрацоўка шкуры ў традыцыйнай народнай культуры Беласточчыны". На выстаўцы можна пабачыць прылады і вырабы гарбароў, шаўцоў, кушнэроў, рымароў, а таксама пачуць пахі, якія разносілі ў майстэрнях гэтых рамеснікаў. Сярод экспанатаў знаходзіцца варштат для апрацоўкі шкуры **Яна Герасімюка** з Гайнаўкі са спісам яго ных кліентаў.

**Барыс Батуеў** з Гродна стаў пераможцам паўмарафона па маршруце Карыцін—Янаў—Карыцін і ў якасці прыза атрымаў ад спонсара мерапрыемства, Малочанага завода ў Моньках, карову. Прызёр аднак з узнагародай на радзіму не вярнуўся, а толькі паставіў яе на аўкцыён і выручыў 2 400 зл.

# Весткі з Беларусі

**Звышпарламент**

Першая сесія Парламенцкага Сходу Савета Саюза Беларусі і Расеі завяршыла сваю работу 13 чэрвеня г.г. у Брэсце. На працягу двух дзён сумеснай дзейнасці дэпутаты дзвюх краін прынялі шэраг важных дакументаў, накіраваных на далейшае збліжэнне Беларусі і Расеі. У першым чытанні прыняты мадэльны законапраект аб фінансава-прамысловых групах. Узгоднены таксама тэкст звароту ў Міжпарламенцкі саюз СНД, у парламенцкія асамблеі Савета Еўропы і АБСЕ (Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе) з просьбай надаць Парламенцкаму Сходу ССБіР статус наглядальніка ў гэтых міжнародных арганізацыях.

**Савецкі гімн**

Старшыня Парламенцкага Сходу ССБіР Генадзь Селязнёў (ён і старшыня Дзяржаўнай Думы Расейскай Федэрацыі) падпісаў пастанову аб прыняцці ў якасці гімна саюза дзвюх дзяржаў музыкі былога гімна СССР (на новыя словы гімна будзе аб'яўлены конкурс). Звязаная з гэтым урачыстая цырымонія, у якой прынялі ўдзел усе дэпутаты ПССБіР (звышпарламента), адбылася ва ўрадавай рэзідэнцыі ў Віскулях, у тым жа пакоі, дзе ў снежні 1991 года былі прыняты белавежскія пагадненні аб развале СССР.

**Рассакрэчаная маёмасць**

Пры прыняцці на работу службовай асобы ўпаўнаважаныя на выкананне дзяржаўных функцый павінны прадстаўляць дэкларацыю аб даходах і маёмасці, у тым ліку і за мяжой, у адносінах да сябе і членаў сваёй сям'і, якія жывуць з імі разам і вядуць сумесную гаспадарку. Гэта норма закладзена ў новым законе аб мерах барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, які адобрыў Савет Рэспублікі Нацыянальнага Сходу. Да гэтай катэгорыі асоб адносяцца работнікі праваахоўных органаў, суддзі, парламентарыі, дэпутаты мясцовых саветаў, служачыя дзяржаўнага апарату і іншыя.

**Абазначэнне мяжы**

Устаноўка першага пагранічнага знака на літоўска-беларускай мяжы адбылася 11 чэрвеня ў раёне пункта пропуску Беняконі—Шальчынінкай. Такім чынам Беларусь і Літва пачалі абазначэнне дзяржаўнай границы на мясцовасці, завяршыўшы працэс яе дэлімітацыі. Для дэмаркацыі літоўска-беларускіх рубяжоў на першым этапе выдзелена 18,5 млрд. рублёў. На границы трэба ўстанавіць больш як паўтары тысячы пагранічных знакаў.

**Дзень урадавай прапаганды**

Дзве тэмы былі ў праграме чарговага адзінага дня інфармавання насельніцтва, які праходзіў надаўна на Гродзеншчыне. Члены створаных пры выканаўчых камітэтах інфармацыйных груп расказвалі жыхарам вобласці пра Дзень Рэспублікі, які ўпершыню будзе адзначацца 3 ліпеня. Размова пайшла таксама аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў краіне, аб створаным Беларускім патрыятычным саюзе моладзі. Зараз на месцах ствараецца пярвічныя арганізацыі БПСМ. Чакаецца, што на Гродзеншчыне ў іх састаў увойдуць больш за сем тысяч юнакоў і дзяўчат.

**Дапамога маламаёмасным**

Урад Беларусі прыняў рашэнне аказаць фінансавую падтрымку сем'ям, якія маюць дзяцей. У першую чаргу гэта тычыцца сем'яў з нізкім даходам. Да пачатку навучальнага года ім будзе выплачана да 700 тысяч рублёў на кожнага школьніка, каб дзеці мелі ўсё неабходнае для заняткаў. Матэрыяльная дапамога размечана толькі на тых школьнікаў, у чыіх сем'ях сярэдні даход складае менш за 850 тысяч рублёў у месяц на члена сям'і.

**Палаючая зямля**

Вялікую занепакоенасць эколагаў выклікае стан наваколля былых вайсковых тэрыторый у Паставах. Глеба тут забруджана арганічнымі рэчывамі і нафтапрадуктамі ў такой ступені, што на глыбіні 60 см зямля ўзгараецца ад запалкі. У аднаўленні наваколля ў гэтым раёне ўдзельнічае і амерыканскі бок, які паставіў тры віды абсталявання для правядзення мерапрыемстваў па ачышчэнні глебы. У цырымоніі размяшчэння гэтага абсталявання прыняў удзел пасол Злучаных Штатаў у Беларусі Кэнэт Яლавіц.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Беларускае прывітанне лета — „Купалле".
- Як чорт цётку Ганну праследаваў — піша Мікалай Лук'янюк.
- У Брэсце не любяць беластачан — піша Уладзімір Сідарук.

**Варшава, дня 15.06.1997 г.**

## Пагадненне аб супрацоўніцтве

**заключанае дня 15.06.1997 г. паміж Уніяй працы, у асобе Старшыні Рышарда Бугая, і Беларускім саюзам у Рэспубліцы Польшча, у асобе Старшыні Яўгена Вапы.**

Унія працы і Беларускі саюз у Рэспубліцы Польшча пастанаўляюць садзейнічаць у пабудове грамадзянскага грамадства, у якім усе грамадзяне з'яўляюцца роўнымі, а іх правы на пашанаванне нацыянальнай, культурнай тоеснасці выконваецца. Дзеля будовы дэмакратычнай і справядлівай Польшчы, а таксама дзеля ажыццяўлення супольных мэтаў, Беларускі саюз як арганізацыя нацыянальнай меншасці павіннен мець свайго прадстаўніка ў Парламенце. Таму на спісках Выбарчага камітэта Уніі працы прадстаўнікі Беларускага саюза апынуцца на дванаццатым месцы краёвага спіска і на другім месцы выбарчага спіска ў Беластоцкай акрузе.

Абодва бакі будуць выступаць за гаспадарчае ажыўленне „Усходняй сцяны" шляхам распрацоўкі плана рэструктурызацыі гэтага рэгіёна. Унія працы і Беларускі саюз будуць імкнуцца стварыць установы, якія пасадзейнічаюць развіццю культурнай, адукацыйнай і навуковай дзейнасці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, такіх як: Цэнтр беларускай культуры, Інстытут беларускай гісторыі і культуры ў Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, Польска-беларускі цэнтр грамадзянскай адукацыі. Абодва бакі будуць весці дзеянні на карысць згоднага сужыцця жыхароў польска-беларускага памежжа шляхам узаемапазнання культурных і рэлігійных традыцый. Унія працы і Беларускі саюз пастанаўляюць падтрымоўваць дзеянні на карысць дэмакратыі ды пашанавання правоў і грамадзянскіх свабод у Рэспубліцы Беларусь, якія дапускаюцца нормамі міжнароднага права. Абодва бакі рашуча падтрымоўваюць развіццё лакальных самаўрадаў як месца фарміравання грамадзянскага грамадства. Менавіта таму Беларускі саюз і Унія працы будуць садзейнічаць ў самаўрадавых выбарах, арганізаваць самаўрадавыя канферэнцыі і курсы, а таксама прамаваць гміны Беласточчыны ў Польшчы і за мяжой.

Пагадненне абавязвае абодва бакі нягледзячы на вынік парламенцкіх выбараў.

**Старшыня Уніі працы**
**Рышард Бугай**
**Старшыня Беларускага саюза**
**Яўген Вапа**

# Стратэгічнае пагадненне

[1 ☞ працяг]
цоўніцтва з беларусамі. Страх аказаўся не найлепшым дарадчыкам. Сёння Унія вольнасці ў Беластоку амаль перастала існаваць.

Пагадненне падпісанае 15 чэрвеня адкрывае дарогу да супрацоўніцтва таксама ў самаўрадавых выбарах, тэрмін правядзення якіх выпадае ў першай палове 1998 года. Упершыню, здаецца, у гісторыі беларусаў на Беласточчыне паказаліся перспектывы існавання нашай меншасці ў якасці суб'екта ў грамадскім жыцці. Стварае гэта таксама шанц наладжання нармальных адносін з польскай большасцю. **(рэд.)**



*Пагадненне аб супрацоўніцтве падпісваюць Яўген Вапа і Рышард Бугай, побач — Аляксандр Малахоўскі.*

# Нашы ў энцыклапедыі

Нядаўна дайшлі да нас другі і трэці тамы 18-томнай Беларускай энцыклапедыі. Другі том змяшчае ў сабе тэрміны, назва якіх пачынаецца з прыметніка **беларускі**. Сярод іх знаходзім артыкулы пра беларускія арганізацыі на Беласточчыне, а менавіта пра „Белавежу", Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Беларускае грамадска-культурнае таварыства і Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Аднак некаторыя артыкулы падаюць устарэлую, недакладную інфармацыю і не ўлічваюць тых зыменняў, які адбыліся ў жыцці беларускай грамады ў Польшчы пасля 1989 года. Напрыклад, у артыкуле пра „Белавежу" не ўпамінаецца ні пра набыццё арганізацыяй юрыдычнай самастойнасці, ні пра заснаванне ў 1990 годзе выдавецкай серыі Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", у якой выйшла ўжо семнаццаць кніжак (інфармацыя абрываецца тут на парозе 1990 года). Змешчаныя ў артыкуле пра БГКТ даныя таксама ў двух месцах не супадаюць з фактычным станам. Можна там прачытаць, што пры БГКТ працуе «літ.-маст. аб'яднанне „*Белавежа*"» і што яно выдае «газ. „*Ніва*"». На жаль, няма ў энцыклапедыі асобных артыкулаў ні пра Беларускі саюз, ні пра Беларускае гістарычнае таварыства ці пра выдаваемы ім „Беларускі гістарычны зборнік" („Białoruskie Zeszyty Historyczne"), хаця абедзве арганізацыі ўпамінаюцца ў артыкуле пра Бельск-Падляшскі.

Пра нашы справы можна таксама прачытаць у артукулах прысвечаных беларускаму радыё і школе за мяжой. У 2 томе на стар. 400 у ліку гарадоў, у якіх выходзяць у эфір перадачы на беларускай мове называецца Беласток з пазнакай: (Польшча, наз. «Пад знакам пагоні») — слова Пагоня напісана з малой літары. Інакш як кур'ёзнай нельга назваць інфармацыю пра беларускае школьніцтва на Беласточчыне, якая дадзена ў даволі абшырным артыкуле **Беларуская школа за мяжой**. Упамянуўшы школьніцтва ў Латвіі, Літве і Польшчы ў даваенны перыяд, у Аўстрыі і Германіі ў II сусветную вайну і дэталёва пералічыўшы ўсе формы асветы ў Заходняй Германіі, Аўстрыі, ЗША, Вялікабрытаніі і Аўстраліі пасля вайны, аўтарка ў канцы напісала: „Абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь, працэсы адраджэння выклікалі цікавасць беларусаў да нац. традыцый, культуры, і дзейнасць школы зноў актывізавалася. Працуюць (1996): бел. ліцэі ў Гайнаўцы і імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім (...); у дзесятках школ Беласточчыны (Польшча) выкладаюць бел. мову як прадмет". Назарыентаванаму чытачу можа паказацца, што беларускага школьніцтва ў Польшчы да 1990 года не было.

Гартаючы 2 і 3 тамы энцыклапедыі знойдзем у іх біяграфічныя даведкі пра Аляксандра Баршчэўскага, Васіля Белаказовіча, Аляксандру Бергман, Яшу Бурша і Георгія Валкавыцкага, прачытаем пра штогадовае выданне БГКТ „Беларускі каляндар" і даведаемся пра колішні Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы ды пра тое, што яго тадыцыі працягвае Гайнаўскі музей помнікаў беларускай культуры (вылучэнне курсівам сведчыць аб тым, што будзе яму прысвечаны асобны артукул у адным з бліжэйшых тамоў). Рэдакцыя энцыклапедыі многа ўвагі адводзіць культурным сувязям з іншымі народамі. Прыкладам гэтаму можа паслужыць артыкул пра Беластоцкі драматычны тэатр, у якім адзначаецца супрацоўніцтва з менскім тэатрам імя Янкі Купалы і пералічваюцца супольныя спектаклі з удзелам беларускіх акцёраў (пакойных Юрыя Авяр'янава і Уладзіміра Кін-Камінскага).

**Віталь Луба**

# БГКТ у Санкт-Пецярбургу

**Гутарка з доктарам Міколам НІКАЛАЕВЫМ, намеснікам старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу.**

***— Колькі беларусаў жыве ў Санкт-Пецярбургу?***

— Паводле афіцыйнага перапісу 85 тысяч, але мы лічым, што фактычна нас удвая больш.

***— А колькі людзей належыць да вашага Таварыства?***

— Актыўна дзейнічае 30—40 чалавек. Старшынёй арганізацыі з'яўляецца вядомы гісторык Валянцін Грыцкевіч.

***— У чым праяўляецца гэтая дзейнасць?***

— Мы разам з літоўцамі паставілі помнік у Левашове, падпецярбургскіх Курапатах. Гэта крыж, на якога канцах з аднаго боку надпіс „Беларусь", з другога „Летува". Ладзім мастацкія выстаўкі (ёсць у нас некалькі выдатных мастакоў-беларусаў). Іх паказваюць і па тэлебачанні. На радыё ўжо некалькі раз арганізаваўся круглы гістарычны стол, прысвечаны беларускай праблемам. Я прадстаўляю за гэтым сталом беларускі бок. Вось у найбліжэйшай перадачы будзем гаварыць і пра становішча беларусаў на Беласточчыне.

Сёлета мы пачалі хадайнічаць за адкрыццё спецкурса гісторыі Беларусі ва універсітэце, але вынікі нашых старанняў пакуль яшчэ невядомы.

***— Ці вашае Таварыства гэта адзіная беларуская арганізацыя ў колішняй расійскай сталіцы?***

— Ёсць у нас яшчэ Беларуская царкоўная грамада, якую ўзначальвае Алег Язвіцкі (яго дзед быў дырэктарам духоўнай семінарыі ў Мінску). Два гады таму ўлады горада передалі гэтай грамадзе зусім разбураную царкву. Пакольк Алег Язвіцкі па прафесіі рэстаўратар помнікаў, яму ўдалося пакрыць царкву, уставіць вокны, падключыць электраэнергію. Ужо служыўся ў нашай царкве малебен у гонар Прачыстай Багародзіцы. Спадзяемся заснаваць беларускі праваслаўны прыход і царкоўныя ўлады даюць нам на гэта надзею.

***— Ці ўлады горада падтрымоўваюць фінансава вашу дзейнасць?***

— Расійская дзяржава наогул не выпрацавала ніякай палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасцей. Тое самае можна сказаць і пра гарадскія ўлады. Мы прымаем удзел у працах нейкай гарадской камісіі па справах нацыянальных меншасцей, але вынікаў прац гэтай камісіі пакуль што не відаць. Дзейнічаем на чыста грамадскіх асновах, на свой кошт.

***— Дык скажыце, як выглядае фінансавае становішча беларускага дзеяча?***

— Я працую загадчыкам аддзела Расійскай нацыянальнай бібліятэкі і зарабляю ў пералічэнні прыблізна 200 долараў. Цэны на ўсё ў нас практычна такія самыя, як у вас. За гэтыя грошы мушу ўтрымаць жонку і двух падрастаючых сыноў.

***— Ваша жонка не працуе?***

— Яна то працуе, але ж ужо тры месяцы зарплаты не атрымоўвае. Яна — кіраўнік прыватнага рамеснага варштата, які вырабляе скураныя сумкі.

***— Дык што, няма на іх попыту?***

— Попыт на іх ёсць, бо яны зроблены па-майстэрску. Усю прадукцыю бярэ вялікі універмаг і зараз жа прадае. А вось грошай на банкаўскі рахунак вытворцу не пералічвае. Ну, пералічвае часткова. Хапае якраз уласніцы варштата, якая купіла сабе „Мерседэс".

***— Дык можа яна павінна наняць нейкую мафію, каб адваяваць грошы?***

— Універмаг надта ж вялікі і ў яго даўно ёсць свая мафія. З імі не выйграеш.

***— Ці тое, што людзі не атрымоўваюць зарплаты, частая з'ява ў Расіі?***

— Гэта з'ява паўсюдная. Людзі не атрымоўваюць зарплаты не тры месяцы, як мая жонка, але і больш за паўгода.

***— Мне цяжка ўявіць сабе нешта падобнае ў Польшчы. Як расіяне гэта пераносяць?***

— Мне здаецца, што расійскае грамадства дасягае ўжо мяжы цярпімасці.

***— Няўжо ж Расію чакае чарговая смута?***

— Нейкае супрацьстаянне між камуністамі і ліберaламі непазбежнае.

***— Як гэта паўплывае на становішча беларусаў у Расіі?***

— Яно наогул цьмянае. Пакуль Расія ядналася з Беларуссю, пра Беларусь і беларусаў тут гаварылі безупынна. Калі ўжо падпісалі адпаведныя пагадненні, зацікаўленне беларускай праблематыкай прапала. Маўляў, далучылі і ўсё, няма праблемы.

Я сам лічу, што мы павінны ўключацца ў палітыку на баку дэмакратычных сілаў. Як ні глядзі, толькі іх перамога дае надзею на нармальнае жыццё.

**Гутарыў Алег Латышонак**

# Следам за гайнаўскім танкам

**Дзесяцігоддзямі ў Гайнаўцы, на скверы ля Гарадской управы, стаяў своеасаблівы помнік — савецкі танк Т-34, сімвал вызвалення горада Савецкай Арміяй з-пад гітлераўскай акупацыі. Аднак у 1990 годзе пачаў ён перашкаджаць тадышнім уладам і яго знялі з п'едэстала, відаць, каб Гайнаўку больш ужо не называлі чырвонай. Сам танк, ужо на звалцы, таксама перашкаджаў адказным за парадак у горадзе, а парэзаць яго на металалом дорага абышлося б гарадской казне. На дапамогу танку і ўладам выйшаў Сцяпан ХУРСА — жыхар Кашалёў, што ў Арлянскай гміне.**

— Калі я даведаўся, што гарадскія ўлады здымаюць танк з п'едэстала, — успамінае Сцяпан Хурса, — рашыўся купіць гэты помнік. Гандлёвую здзелку зрабіў я 6 ліпеня 1991 года, заплаціўшы роўна мільён злотых. З квітанцыяй вярнуўся я дадому і два тыдні каваў і паяў адпаведнай велічыні крук для трактара „Беларусь", каб падчапіць і прыцягнуць танк у Кашалі. У вёсцы нікому я аб сваіх планах не сказаў, каб не напалохаць людзей. Праз Гайнаўку суправаджала мяне паліцыя, далей ехаў сам. У вёсках людзі выходзілі на вуліцу і са здзіўленнем глядзелі на незвычайны транспарт. У Орлі зрабіў я ганаровае кола вакол парку, а людзі сталі паказваць месца, дзе трэба пакінуць танк. Але пацягнуў я яго далей, у Кашалі і паставіў спачатку пасярэдзіне свайго панадворка, потым перастаўляў у іншыя месцы.

Танк Т-34 — з нумарам 210 — гэта сапраўдная баявая машына. На ствале гарматы намаляваны былі шэсць крыжыкаў у знак поспехаў на полі бою. Сусед з насцярожанасцю глядзеў як Сцяпан завіхаецца каля танка, а калі навёў гармату ў напрамку ягонай хаты, неадкладна падаўся на паліцыю.

— Я не намерваўся страляць у суседа, — працягвае расказ мой субяседнік. — Трэба было мне павярнуць ствол у другі бок, каб выгадней было на ім выбіваць дываны ці ходнікі. У гэтага танка не было ні замка, ні рухавіка, ні каробкі перадач...

Аднойчы ў Кашалі прыехалі госці з Расіі і калі за плотам заўважылі танк, сказалі: „Праўду пісалі ў „Праўдзе", што ў Польшчы селянін мае праўдзівы танк". Паўтара года дзеці з Кашалёў і навакольных вёсак гулялі ў танку і ля танка. Людзі любяць Сцяпана за яго чыстасардэчнасць, усмешку і не турбаваліся пра дзяцей, калі тыя знаходзіліся на ягоным панадворку.

— Люблю танкі і тых, якія іх любяць, — кажа Сцяпан Хурса. — Чатыры гады таму прыехаў Ежы Н., лекар са Шчучына, які марыў мець танк на дачы. Пашкадаваў я чалавека і аддаў яму танк амаль задарма і яшчэ разам з Віцем Корзунам з Гайнаўкі зацягнулі мы яго на месца — 170 км пераадолелі за 17 гадзін. Стаіць цяпер гайнаўскі танк пры шашы Піш—Шчучын, 12 км ад мястэчка, на колішняй польска-прускай мяжы.

Але танкі не пакінулі Сцяпана Хурсу. Неўзабаве даведаўся ён пра беластоцкі танк ля вул. Сянкевіча, які страціў зялёны колер у выніку акцыі „Аранжавай альтэрнатывы" і якім перасталі цікавіцца завод „Ухвыты", што некалі ўзяў шэфства над помнікам, і гарадскія ўлады.

— Жаль мне стала танка, — расказвае мой суразмоўца. — Паехаў я на ровары ў Беласток, атрымаў дазвол на памаляванне танка, купіў пяць банак зялёнай фарбы і стаў аднаўляць помнік. За некалькі дзён танк зноў быў зялёны. У працы спадарожнічалі мне дзеці з навакольных кварталаў, якія сачылі за маёй працай і трымалі ровар, з якога прыходзілася мне маляваць гарматні ствол. Аднак, ніхто з улад не падзякаваў мне...

Сцяпан Хурса не пакрыўдзіўся за гэта. Шкадуе толькі, што не паспеў на вежы беластоцкага танка намаляваць галубоў — сімвала міру, каб людзі больш цанілі спакой і не знішчалі помнікаў. На штодзень мой суразмоўца займаецца земляробствам — разам з братам Віктарам апрацоўвае 70 гектараў зямлі. Апрача гэтага ажыццяўляе свае канструктарскія планы і вынаходствы. Любіць таксама ездзіць на ровары, на якім дасхаў не толькі ў Беласток, але наведаў Швецыю і Нарвегію.

**Міхал Мінцэвіч**



*Сцяпан Хурса (злева) і аўтар артыкула.*

**Найлепшыя аматары прыгожага пісьменства — ацэнены. Завяршэнне другога конкурсу беларускай паэзіі і прозы было ўрачыстае. У ратушы ў Бельску 13 чэрвеня сабраліся арганізатары, члены камісіі, госці, некаторыя спонсары і, найважнейшае, амаль усе яго ўдзельнікі.**

# Матылькі, воі і разбоі

— Я ўжо колькі гадоў абарочваюся ў літаратурным крузе, — сказаў старшыня журы Ян Максімюк, — таму думаў, што ведаю ўсіх, якія ў нас могуць пісаць па-беларуску. А тым часам 95% сабраных тут асобаў я бачу ўпершыню. І гэта асаблівa прыемна. Паважыцца пісаць па-беларуску ў Польшчы — цяжка. Мы мусім прызнацца, што, усё-ткі, лепш ведаем польскую мову, а беларускую, у чыстым выглядзе, няма нават дзе пачуць. Удзельнікі конкурсу, рашыўшыся на беларускую мову, праявілі не абы-якую адвагу і, прытым усім, даказалі, што можна, салідна папрацаваўшы, выказаць на ёй найбольш складаныя думкі і запаветныя пачуцці.

Узнагароды ўручалі старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа, Ян Максімюк і дырэктар Аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку Казімеж Дэркоўскі. Затым найлепшыя ў кожнай узроставай катэгорыі — вучні пачатковых і сярэдніх школ ды дарослыя — чыталі перад публікай па адным-два вершы або фрагменты прозы. Іх тэмы, формы і змест аказаліся самыя розныя. Так як рознае хвалюе васьмікласніцу, якая *быццам матылёк* (з верша Юстыны Каралько), сямідзесяцігадовую вясковую пенсіянерку, ці загартаванага ў змаганні лідэра нашага палітычнага руху Пятра Крука (у сваёй гераічнай баладзе пісаў ён пра тое: *колькі ўжасных вояў тут прыходзіла з разбоем*). Удзел у літаратурным конкурсе старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання з'яўляецца неаспрэчным доказам, што мы — паэтычная нацыя. Тым больш, што ён не першы наш палітык, які трапіў пад крыло паэтычнай музы.

Кончыў сустрэчу слоўна-музычны мантаж — у аснову́нм на творы удзельнікаў леташняга конкурсу, — які падрыхтавала з дзяцьмі і моладдзю Альжбета Тамчук з Бельскага дома культуры, а ігрою на гітары і флейце дапамаглі ёй Дар'я Фіёнік і Алег Кабзар.

Варта тут будзе заўважыць, што Казімеж Дэркоўскі падкрэсліў вялікае яго значэнне. У сваім кароткім слове звярнуў ён увагу і на тое, што сёлетняя сустрэча праходзіла ў вельмі прыгожым месцы:

— Я цікавы, дзе Вапа прыдумае спатканне праз год? — гэтае пытанне прагучала як абяцанне, што Ваяводская ўправа ў Беластоку будзе падтрымліваць ініцыятыву ў будучыні.

Калі астатнія спонсары: міністэрствы культуры і адукацыі будуць такой самай думкі, за лёс конкурсу можна не хвалявацца. Падмурак пад будучыню беларускай літаратуры ў Польшчы, можна лічыць, закладзены.

**М. В.**

# Парадаваў Гарадок

У нядзелю 15 чэрвеня ў беластоцкім амфітэатры прайшло „Свята беларускай культуры". Урачыстасць адкрыў старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі. Прывітаў ён гасцей Свята: пасла ў Сейм Рэчы Паспалітай Станіслава Малішэўскага, Мечыслава Пецку і Сяргея Плеву з жонкай, прадстаўніка Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве Уладзіміра Сакалоўскага, прадстаўніка Міністэрства культуры і мастацтва Рэчы Паспалітай Ежы Завішу і Генеральнага Консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхаіла Слямнёва, а таксама — ананімна ўжо — усіх апошніх прысутных. Далейшы ход Свята старшыня даручыў — традыцыйна ўжо — Валянціне Ласкевіч.

Той ход свята можна падзяліць на два перыяды; так, як калісь увесь беларускі лёс дзяліўся на дарэвалюцыйны і паслярэвалюцыйны. У амфітэатры ролю рэвалюцыі адыграў, здаецца, некалькіхвілінны дождж, які выдатна спустошыў глядацкую папуляцыю — напалову больш-менш — так, як гэта робяць розныя рэвалюцыі менавіта. Дождж гэты — праўда — супаў са сцэнічным жартам (так прынамсі мне гэта паказалася) вядучай Свята Валянціны Ласкевіч. Зрабіла яна менавіта апытанне публікі — такі модны цяпер у нас рэферэндум, — дзе трэба было толькі адказваць „так" або „не" на яе пытанні. Не буду тут іх прыводзіць, бо — з сорамам прызнаюся — забыў іх. Толькі выснову помню: няма лепшага кандыдата ў паслы ад старшыні Сычэўскага і яго прысутных на Свяце калегаў са спіска, бо да выбараў вядзе іх сам Уладзімеж Цімашэвіч. Люба было бачыць, як з дармовага спектаклю слабыя беларускім духам гледачы чэшуць або — як рагатыя ад свянцонай вады — ад дажджу, або — грэх у нас падумаць — ад такога тутэйшага ў нас прозвішча; рэвалюцыі звязаны наогул з нейкімі прозвішчамі. Ну і пацвердзілася хрэстаматыйная ісціна: тых, што выжывуць, чакае светлая будучыня; хай шкадуюць тыя, каторыя не выстаялі! Бо калі першы перыяд быў, так сказаць, стандартны ў нас, але другі ўжо быў быццам бы подыхам свежага паветра. А сталася так за справай перш кароценькай сольнай падачы Алы Дубец, а затым гасцей з Беларусі — ансамбля „Яблынька" з раённага горада Гарадка, што каля сарака кіламетраў за Віцебскам; хай выбачаюць мне такое меркаванне апошнія.

Ала Дубец, гэта ўжо ў нашым асяроддзі не індывідуальнае вымярэнне, але інстытут; колькі яна, маладая ж яшчэ, успела ўжо зрабіць на нашай грамадскай ніве! А колькі за гэта горычы дасталася ёй у нас, бо ж „нашы" людзі — не абы хто! Саступіла ім спадарыня Ала, як і патрабуе гэтага народная мудрасць, і яе індывідуальная паяўленне не становіцца падзеяй; факт.

Ансамбль з Гарадка апынуўся ў Беластоку дзякуючы хадатайству Генеральнага Консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхаіла Слямнёва; вялікае



*Песні падабаліся гледачам.* Фота Сяргея Грынявіцкага

**Праз дваццаць гадоў Беларусь будзе нашай!**

# Запусціць працэс

— Пераўтварыць „Бязмежжа” з літаратурнага семінара, які адбываецца раз у год у дзеючы ўвесь год асяродак, які працаваў бы на спатканні літаратур, знаёмствы, пераклады, — запрапанаваў на заканчэнне польска-беларускай літаратурнай сустрэчы ў Гайнаўцы Ігар Бабкоў з Менска. Гэтая прапанова ўяўляе сабою праект, які ахапляе ўсе іншыя, звязаныя з кантактамі польскай і беларускай літаратур і ўзаемаперакладамі.

Так, фактычна ж, было з беларускім нумарам беластоцкага літаратурнага часопіса „Карткі” — з'явіўся ён як вынік мінулагодняга семінара „Бязмежжа”, але рэалізаваўся больш за паўгода. Так было з самім „Бязмежжам”, ідэя якога выспельвалася ад сустрэчы трох асобаў — Алега Латышонка, Яўгена Вапы і ніжэйпадпісанага — у Супраслі ў 1990 годзе і захаплення паэзіяй Разанава (*...і ўсё менш ува мне мяне, і ўсё больш бязмежжа*). Задавальняючыя рэзультаты могуць з'явіцца толькі ў выніку працэсу. Інакш будзе толькі выпадковасць.

Да пераўтварэння „Бязмежжа” ў працэс, безумоўна, яшчэ далёка. Тым не менш, шанцы ёсць. Прыбліжаюць гэта новыя факты, як хаця б зборнік версетаў Алеся Разанава *Zdobywcy* ў перакладзе Алега Латышонка, які з'явіўся ў Бібліятэчцы „Картак”. Кніжачку выдаўцы паспелі давезці ў Гайнаўку перад канцом семінара. У задуме, з яе толькі павінна пачацца беларуская серыя ў гэтай бібліятэчцы.

Чарговым фактам-эфектам сёлетняга „Бязмежжа” трэба лічыць зачытаныя ў Гайнаўцы даклады, першы з якіх, „Словы ў голым полі” Яна Максімюка, друкуецца ў гэтым нумары „Нівы”. Апрача Максімюка, з дакладамі выступілі: Алесь Аркуш (Наваполацк) — „Выпрабаванне развоем. Новая паэтычная сітуацыя ў Беларусі”, Ігар Бабкоў (Менск) — „За небакраем Еўропы. Рэчаіснасць і постканіяльнае мастацтва”, Людка Сільнова (Менск) — „Эксперыменты ў сучаснай беларускай паэзіі. Фрагменты транслігвістычнай тэорыі” і Адам Глёбус (Менск) — „Зачыніце цыры. Нататкі пра беларускую паэтычную мініяцюру”. Усе даклады будуць данесены да чытача „Нівай” і, у пазнейшым тэрміне, асобным выданнем.

Да некаторых аптымістычных высноў *(у нашай безнадзейнай сітуацыі)* публікаванага тут тэксту Яна Максімюка хочацца дадаць яшчэ адну, якая вынікла пасля дыскусіі з удзелам польскага паэта Яцка Падсядлы. Калі сёння палякі заглыбляюцца больш у структуру сваёй мовы і пачуваюцца спадкаемцамі створанага толькі на польскай мове, тады беларусы ўсведамляюць сябе наследнікамі полікультурнасці, якая функцыянавала ў розны час на абшары, скажам умоўна, Вялікага княства Літоўскага. І з'яўляюцца больш адкрытымі на новае ў сусветнай літаратуры. Гэта будзе служыць дальнабачнай мэце, сфармуляванай заснавальнікамі новага культурнага праекта „Тэрарт” Адамам Глёбусам і Ігарам Бабковым: *Праз дваццаць гадоў Беларусь будзе нашай!*

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*



*У час перапынку (злева): Адам Глёбус, Ігар Бабкоў, Алег Латышонак, Яўген Вапа, Алесь Аркуш.*



*Хведар Кашкурэвіч і Аляксандр Лось на вогнішчы.*



*Спадар Пратасевіч (справа) — паўнапраўны ўдзельнік „Бязмежжа” (у беларускай літаратуры займеў ён імя Вазёрнік). Злева: Юрка Ляшчынскі.*

# Змагары і дудары

Можна сказаць, што вогнішча ў Тапіле стала ўжо нармальным завяршэннем семінара „Бязмежжа”. Год назад удзельнікі з'ездзілі туды ў цеснаватай абстаноўцы машыны маркі „РАФ”, пазычанай на такую нагоду ад гаспадара семінара Канстанціна Майсені. На гэты раз падарожжа адбылося вузкакалейнай чыгункай. Вузкакалейка — адзіны чыгуначны сродак транспарту, які застаўся ў Гайнаўцы. Прыгадаю, што ў Гайнаўку нельга цяперашнім часам даехаць ні на цягніку, ні, тым больш, выехаць адтуль. Гэта такая своеасаблівая ўзнагарода, якую мясцовае жыхарства атрымала ад улад за сваю вернасць ідэалам...

Тапіла характэрнае сваім возерам ды яго сторажам — старым Вазёрнікам. Год назад Вазёрнік займальна распавёў *бязмежнікам* пра свой шлях з арміяй генерала Андэрса, а яго расказ стаў урокам невядомай гісторыі для гасцей з Менска. Ды што гісторыі, філосаф І. Бабкоў акрэсліў расказ як літаратуру вышэйшай спробы.

Быў на тапілаўскім возеры і мол, завершаны паветкай, пад якой *бязмежнікі* знаходзілі прыпынак, каб дыскутаваць пра бязмежныя прасцягі віртуальнай рэчаіснасці Інтэрнет. Да гэтага часу ён не захаваўся — будзе перабудоўвацца. Былі ў гэтым годзе таксама новыя акалічнасці, якія і засведчылі пра прагрэс усяго мерапрыемства. Заіснавалі яны перад усім у музычнай сферы — віртуозная імправізацыя Алега Кабзара на флейце ды канцэрт Хведара Кашкурэвіча і Аляксандра Лося на дудах. Дуда, як аказваецца, тыпова беларускі інструмент, але цалкам невядомы — апошні дудар памёр у 60-я гады нашага стагоддзя. На Беласточчыну інструмент і музыку прывезлі згаданыя асобы — Х. Кашкурэвіч і А. Лось. Пісьменнік Адам Глёбус пераканаў усіх, што пад дуду можна таксама танцаваць. Паказаў нават як гэта робіцца.

**(ам)**

дзякуй яму за гэта сказала Валянціна Ласкевіч і, думаю, такога ж меркавання была публіка. Артысты з Беларусі вылучыліся на фоне нашых выканаўцаў не толькі дынамікай і задорам, але і ўкамплектаванасцю. Справа ў тым, што ў іх саставе былі секцыі і вакальная, і танцавальная, і інструментальная. У нашых, з Беласточчыны, такога не было. Толькі дзіцячыя калектывы мелі: танцораў — школьнікі з Нараўкі, і інструменталістаў — школьнікі з Нарвы; вось каб так аб'яднаць суседнія сілы... Яшчэ спяваючая моладзь з Чаромхі мела музычныя інструменты, але самыя магутныя давалося трымаць дзяўчатам. А ў іх жа — мода быць тонкімі, *як та Тэрэска: спиоду — дэска, стылу — дэска*, і, хаця яны ніякія не „Тэрэскі”, бо ўсе выгібы ў іх такія як трэба, аднак змаганне іхных далікатных фігур з акардэонам або бубнам наводзіла ментальную нявыгаду... А старэйшыя нашы выканаўцы — вымагаць ад іх больш ад спеваў было б проста рыдыкулёзна. Затое ж маладыя артысты з Віцебшчыны маглі паказаць усё, што найлепшае ў музычнай традыцыі беларусаў. І не пашкадавалі яны на гэта ні сіл, ні часу. Жыве яшчэ Беларусь!

Гаворка дагэтуль была толькі пра музыку, а ж Свята было святам культуры. І былі там пісьменнікі Віктар Швед і Васіль Петручук, якія прапанавалі свае кнігі — пакуль не пайшоў дождж. А з даждждом укінулі свае творы ў сумкі, і так з тымі сумкамі прастаялі да канца...

Віктар Швед меў усё ж на Свяце свае „пяць мінут”. Выявілася вось, што дзякуючы яму на сцэне амфітэатра даў свой дэбют ансамбль „Жубры”. Не былі гэта аднак масцітыя барадачы, толькі дзве дзяўчыны, якія асабліва старанна круцілі ваколіцамі сваіх таліяў, і адзін гаваркі хлапец. І паказалі яны вось тое, што становіцца ўжо амаль у нас нормай: спявалі то яны па-беларуску, але сказаць хаця б слова на мове спеваў — ні ў зуб. Ды і сярод публікі цяжка было пачуць роднае слова. Баюся, што недзе гадоў можа праз дзесяць на гэтым месцы і на мове спяваць аўтахтонам могуць ужо... алахтоны.

Закончыла Свята песня „Люблю наш край” у выкананні ўсіх спевакоў пад кіраўніцтвам Алы Дубец. А публіка, трэба сказаць, не падвяла, калі ўлічыць факт, што ў той жа час у Беластоку адбываліся грандыёзныя масавыя гульні, арганізаваныя папулярнымі беластоцкімі штодзёнкамі з удзелам лепшых польскіх майстроў эстрады. Жыве яшчэ ў нашых душах роднае.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Беластоцкія фэсты

У гэтым годзе на праваслаўную Пяцідзесятніцу да святкаванняў уключыліся таксама і палякі. У Гайнаўцы фэст арганізавала Беластоцкае радыё, у Нараўцы таксама праходзілі нейкія фальклорныя гульні, а ў Беластоку — Свята беларускай культуры ў выкананні артыстаў бэгэкатоўскага ўзгадавання і фэст „Кур'ера паранняга” на дзядзінцы палаца Браніцкіх. Надвор'е не спрыяла адпачынку на ўлонні прыроды, таму жыхароў Беластока цягнула ў напрамку гукаўзмацняльных калонаў, размешчаных у двух месцах у цэнтры горада, як мух да мёду.

На плошчы перад Медыцынскай акадэміяй сабраўся натоўп моладзі. Каля пятай пасля абеду пачаў ісці дожджык, а на сцэне выступаў акурат нейкі рок-гурт. Лысыя спевакі давялі публіку да такога стану, што пэўна нават не заўважала яна кропляў, якія падалі на іх распаленыя чэрапы. Кругом гэтага гіпнатызаванага музыкай натоўпу круцілася некалькі тысяч аматараў піва. Такой колькасці залатога напітку не спажываецца нават падчас „Басовішча”. Шалёны рух людзей, грошай і тавараў. Плошча перш за ўсё акупаваная была моладдзю. Хаця пасля дажджу не было цёпла, дзяўчаты імкнуліся паказаць цалкавітую даўжыню сваіх, наогул загарэлых ужо, ног. Адным словам — сучасная вакханалія.

Не выпадала мне слухаць толькі польскай музыкі і захапляцца прыгажосцю польскіх жанчын, калі пару соцень метраў побач праходзіў падобны беларускі фэст.

У беластоцкім амфітэатры на абмоклых лавачках сядзела некалькі соцень злітых дажджом гледачоў. У Беларусі публіку ў такім узросце называюць электаратам. Доўжык разагнаў большасць гэтай аўдыторыі зараз пасля першых выступленняў знакамітых артыстаў. Пасля гульняў каля Акадэміі, у амфітэатры ўсё явілася вельмі бедным і сумным. На эстраду выходзілі найчасцей героі артыкулаў Ады Чачугі. Плылі песні пра каханне ў мінулых эпохах, пра гусей і кароў. Disco polo на найвышэйшым вясельным узроўні прэзентаваў гурт „Жубры” з Беластока.

Публіка была шчаслівая. Артысты таксама. У першых лаўках сядзелі знакамітыя палітыкі. Поўная гарманічнасць мэтаў і дзеянняў арганізатараў фэсту.

**Яўген Міранович**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Фестываль у Плятэрове

Я была на мерапрыемстве „XIV дні Плятэрова”. На фестывалі выступалі многія калектывы. Удзельнічаў там таксама беларускі калектыў „Магдалін”. Спяваў ён народныя песні Беларусі і Украіны, танцаваў „польку”, а малая дзяўчынка праспявала песню „Люблю наш край”. Потым „Магдалін” праводзіў конкурсы. Малая дзяўчынка атрымала ва ўзнагароду прыгожы рысунак. Потым выступіў калектыў „Гарфа” і многа, многа іншых. На фестывалі было шмат людзей. Усім падабалася тое, што прыгатавалі дзеці і дарослыя.

**Мажэна БАДАВЕЦ,**
**вучаніца IV класа**
**ПШ у Дубічах-Царкоўных**



*Агнешка Максімюк — дэкламатарка з Рыбалаў.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК



*Нептун.* Малюнак Міхала БАЗЫЛЮКА

## Беларусы пры канцы XIX стагоддзя

У выніку падзелу Рэчы Паспалітай Беларусь была ўключана ў склад Расейскай імперыі. Пасля доўгага перыяду паланізацыі пачалося пераўтварэнне беларусаў у „истинно русский народ” (сапраўдны расейскі народ). Існаванне беларускага этнасу не прызнавалася царскім урадам. Пасля студзеньскага паўстання беларусы ўспрымаліся як адна з дзесяткаў расейскіх этнаграфічных груп на тэрыторыі вялікай Імперыі Раманавых.

Тэрыторыя Беларусі знаходзілася ў межах пяці губерняў: Гродзенскай, Віленскай, Менскай, Магілёўскай і Віцебскай. У 1892 годзе ўладамі быў праведзены перапіс насельніцтва. Паводле гэтага перапісу беларусы ў Магілёўскай губерні складалі 82,4 прац. усяго насельніцтва, у Менскай— 76, Віленскай — 56, Віцебскай — 52, Гродзенскай — 44 працэнты. Другую этнічную групу на Беларусі складалі яўрэі — амаль 18 працэнтаў усяго грамадства, а ў некаторых паветах Гродзенскай губерні набліжаліся яны нават да 30 працэнтаў. У Люцынскім і Рэжыцкім паветах Віцебскай губерні пераважала латышскае насельніцтва, а ў Трокскім павеце Віленскай губерні дамінавалі літоўцы.

На захадзе Гродзенскай губерні, у Беластоцкім і Бельскім паветах жылі палякі. Расейцы былі на ўсёй тэрыторыі Беларусі як ураднікі, паліцыянты, вайскоўцы, святары, настаўнікі.

Асаблівасцю беларусаў у параўнанні з рускімі, палякамі, літоўцамі, яўрэямі быў іх падзел на веравызнанні — праваслаўных і каталікоў. Ні Каталіцкі касцёл, ні Праваслаўная царква не прызнавалі беларусаў як народа, а рэлігію выкарыстоўвалі для апалячвання ці русіфікацыі насельніцтва, дапаўняючы такім чынам палітыку акупацыйных рэжымаў.

## Польска-беларуская крыжаванка № 26

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ikra | | Rząd | Mięta / As | | Pirat / Wosk | | Data |
| Kraj-obraz | | | | | | | |
| | | | | | | | |
| Prze-strzeń | | | | | | | |
| Adresat | Pijanica | | | | | | |

**Адказ на польска-беларускую крыжаванку з 22 н-ра:** нагода, сарока, замак, бас, газ, дом, рака, мак.

**Магічная крыжаванка:** явар, вада, Адам, рама.

Узнагароды — **каляровыя фарбы** — выйгралі: **Адам Янюк** з Катоўкі і **Сава Астапчук** з Гарадка.

Віншуем!

Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Нівы”.

## Уражанні ад журналісцкіх заняткаў

20 мая 1997 года рэдактары штомесячніка „Wiadomości Gródeckie — Haradockija Nawiny” сарганізавалі журналісцкія заняткі для вучняў пачатковых школ Гарадоцкай гміны. Адбыліся яны ў Гарадоцкім доме культуры, дзе сабралася больш за 30 вучняў са школ у Зубрах, Залуках, Вераб'ях і Гарадку. Была таксама група дзяцей, якая вывучае беларускую мову.

На пачатку галоўны рэдактар выдання Юрка Хмялеўскі расказаў як паўстае газета і як цяжка трэба напрацавацца, каб з аддзельных матэрыялаў зляжыць такую цікавую газету. Таксама наведалі мы сядзібу рэдакцыі, дзе пабачылі ўмовы, у якіх працуюць журналісты.

Пазней адбылася прэс-канферэнцыя з войтам гміны Яўгенам Семенюком, які стараўся адказаць на ўсе пытанні маладых журналістаў. Мы апынуліся ў групе, якая хадзіла па гарадоцкіх вуліцах і пытала, што людзі думаюць пра сваю газету. Ставілі пераважна адно галоўнае пытанне: ці газета падабаецца, а калі не, дык чаму? Мушу сказаць, што былі людзі, якія не ведалі што такая газета ёсць, але былі гэта адзінкі.

Калі мы вярнуліся з апытання, чакала нас гарачая каўбаса і цёплая гарбата.

На канец, калі ўсе параз'язджаліся дамоў, наша група асталася і мы папыталіся рэдактараў як паўстала газета „WG— HN” і якія былі яе пачаткі. Прадставілі таксама свае прапановы і праекты.

Увесь час панавала цёплая атмасфера і было вельмі весела. Рэдактары прыгатавалі нам сапраўдныя *ідэнтыфікатары* з імёнамі і прозвішчамі па-беларуску. На працягу гэтых некалькіх гадзін мы маглі быць рэдактарамі гарадоцкай газеты, што цяпер прыемна ўспамінаем. А можа яны нам яшчэ спатрэбяцца? Усе былі вельмі задаволены з гэтага мерапрыемства і з усмешкай на твары пайшлі дахаты. Думаем, што кожны з нас чагосьці навучыўся, што быў гэта дзень не толькі прыемны, але і карысны.

**Малгажата Мартонік**
**Мажэна Геншэўская**

# Развітанне з „Вясёлкай”?


*„Вясёлка” і настаўніцы — Вера Флярчук (першая злева) і Людміла Максімюк (другая справа).*

Напрыканцы школьнага года не хочацца думаць пра школу. Асабліва тады, калі надвор'е спакушае летнім сонцам і водарам раслін. 13 чэрвеня быў такі ж сонечны, гарачы дзень. На школьным панадворку ў Кленіках сустрэў мяне вясёлы дзіцячы гоман. Многія вучні займаліся спортам. Гэтая галіна культуры тут вельмі папулярная. Не дарма вучні ПШ у Кленіках ужо чацвёрты год заваёўваюць у спартыўных спаборніцтвах кубак войта гміны Чыжы.

— Тут моладзь развітая ў спорце, — кажа настаўнік Юрка Астапчук, нядаўны выпускнік Менскай акадэміі фізкультуры.

Кленіцкія спартсмены выйгралі не толькі кубак войта, але і баскетбольны мяч і набор для тэніса.

— Зацікаўленне спортам не абрываецца на пачатковай школе, — кажа Ю. Астапчук. — У Кленіках спортам цікавяцца моладзь і настаўнікі. Не так даўно маладзёжная каманда выйграла тэлевізар, які зараз стаіць у вясковым клубе.

Але не адным спортам славяцца Кленікі. Пра дзявочы калектыў „Вясёлка” наша газета не раз ужо пісала. Нядаўна ў час агляду беларускай песні для школьнікаў „Вясёлка” заваявала другое месца. У калектыве восем прыгажунь. Праўда, ёсць і адзін хлопец — Мар'юш, але ён выступае як музыкант. „Вясёлка” існуе ўжо чатыры гады. Яе вядуць настаўніцы Людміла Максімюк (выхавацелька VIII кл.) і Вольга Германюк. Час ад часу самадзейнікі сустракаюцца з інструктарам Міхалам Аўхіменем, які працуе ў Чыжоўскім доме культуры.

— Выступалі мы ў Драгічыне, Чаромсе, Міхалове, Беластоку, — пералічваюць свае паездкі дзяўчаты.

— А ўсе мерапрыемствы, што адбыліся ў школе, цяжка палічыць, — дадае настаўніца беларускай мовы Вера Флярчук. — Дзяўчаты не толькі спяваюць, але і любяць гуляць у тэатр. Вось у час апошняй ёлкі заваражылі яны публіку пастаноўкай твора М. Шаховіча „Як Ігнат жонку культуры навучыў”. Шкада толькі, што „Вясёлка” канчае школу.

— Але войт паабяцаў, што будзе дапамагаць, калі захочам спяваць далей, — кажуць дзяўчаты.

У час маёй пабыўкі васьмікласнікі наладзілі ўрачыстую, развітальную вечарыну. Хацелася б не развітвацца з „Вясёлкай”.

У Кленіках сустрэнеце і такога роду асаблівасць — амаль усе дзеткі вывучаюць беларускую мову. У школе 111 дзетак. Сярод школьнікаў шмат выдатнікаў. Вось у чацвёртым класе, які вядзе настаўніца матэматыкі Марыя Галавачык, аж 7 асоб (на 17 вучняў) атрымае пасведчанні з чырвонай палоскай. Варта назваць прозвішчы гэтых дзетак — Мар'юш Грыгарук, Кася Карчэўская, Аня Касцючык, Адам Назарук, Міхась Пракапюк, Павел Сахарчук і Моніка Врублеўская.

— Вялікай падзеяй у жыцці нашай школы быў візіт тэлебачання і беластоцкага радыёвяшчання, — успамінае беларусістка В. Флярчук.

Дзеткі з Кленік прымалі ўдзел у многіх конкурсах. У прадметным конкурсе беларускай мовы ўдзельнічала чатыры асобы. Дзве вучаніцы Івона Касцючок і Кася Філановіч перайшлі на раённы этап. Аж 22 асобы прыступілі да дэкламатарскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы, а Анэта Трафімюк атрымала вылучэнне ў цэнтральных элімінацыях.

Дзеткі з Кленік выступалі таксама на тэатральным аглядзе ў Кляшчэлях, дзе паказалі п'есу „Хто вінаваты”.

— Такія паездкі пашыраюць веды школьнікаў, — адзначае спадарыня В. Флярчук. — Дзеткі, якія ўдзельнічаюць у артыстычных конкурсах, ставяць сабе большыя патрабаванні.

Што варта яшчэ сказаць пра школу ў Кленіках? Тутака, як мала дзе, можна сустрэць беларускую інтэлігенцыю. Настаўнікі любых прадметаў добра валодаюць беларускай літаратурнай мовай і добра ведаюць „Ніву”.

Айцец Уладзімір Саўчук з Тыневіч-Вялікіх, які ў Кленіках навучае рэлігіі, у гутарцы часта спасылаўся на артыкулы з нашай газеты. Шкада толькі, што з кожным годам падае лік насельніцтва.

— Яшчэ ў 70-ыя гады ў нашай школе было па два паралельныя класы, — успамінае дырэктар Ян Лабузінскі, — а зараз так яно ёсць, што прыйдзецца класы спалучаць.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



*Кленіцкія энтузіясты спорту і настаўнік фізкультуры Юрка Астапчук.*


*На ўроку матэматыкі ў чацвёртым класе. З дзяцьмі — выхавацелька Марыя Галавачык.*

# Гданьскія замалёўкі

***(пачатак у 23 нумары)***

**22.05.97**

Сёння мы наведалі розныя касцёлы Гданьска.

Найперш пазнаёміліся з гісторыяй рымска-каталіцкага касцёла св. Пятра і Паўла. Святыня гэта пабудаваная ў сярэднявякоўі. Зараз яе рэстаўрыруюць. У частцы святыні знаходзіцца капліца, дзе моляцца польскія армяне. У Гданьск папалі яны разам з хваляй пасляваенных рэпатрыянтаў з заходняй Украіны. У гэтым веравызнанні многа слядоў праваслаўя. Армяне, як і праваслаўныя, доўгі час жылі пад уніяй. Пасля уніі перайшлі яны ў каталіцкі абрад. Зараз у Гданьску вельмі мала вернікаў армянска-каталіцкага веравызнання.

З веравызнаннем спасапраабражэнцаў *(зялёнасвяткоўцаў)* мы пазнаёміліся ў той жа дзень. Іх збор знаходзіцца ў былым касцёле менанітаў, якіх ужо ў Гданьску няма. У святыні стаяць не толькі арганы, але і бубны, гукаўзмацняльнікі. У час малітвы спасапраабражэнцы спяваюць з аркестрам, танцуюць. Гэты своеасаблівы кантакт з Богам прыносіць ім многа радасці. На сценах няма абразоў, упрыгожанняў.

Пазней мы знаёміліся з польска-каталіцкім касцёлам. Гэтае веравызнанне нарадзілася ў Амерыцы ў час падзелаў Рэчы Паспалітай. Ад рымска-каталіцкага касцёла розніцца між іншым тым, што не падлягае Ватыкану. У святыні — старыя, прыгожыя абразы і арганы.

Вялікае ўражанне выклікала пабыўка ў мячэці. Вернікі ісламу маюць сваю святыню ў Аліве. Большасць з іх гэта татары. Салім Хазбіевіч расказваў нам пра сваю рэлігію і беларускіх татараў, пра аль-кітабы — беларускую літаратуру, запісаную арабскімі літарамі.

Незабыўная паказалася і сустрэча з гданьскім праваслаўем. Царква знаходзіцца ў гатычным будынку. Толькі нядаўна на даху паставілі купалы. Раней тут быў могільнікавы крэматорый. Айцец Аркадзь Зеляпуха расказваў пра складаную гісторыю праваслаўя. Зараз у Гданьску дзвесце праваслаўных сем'яў. Многа моладзі адыходзіць ад царквы і мяняе веравызнанне.

У гэты дзень мы аглянулі яшчэ Маркі музей. Якраз пры нагодзе святкаванняў тысячагоддзя горада нам пашанцавала пабачыць выстаўку пад загалоўкам „Прусы”. Гэты балцкі народ меў багатую культуру і славіўся ваяўнічасцю. Загінуў, бо не быў аб'яднаны. Пруская мова захавалася па XVII стагоддзе ў дыялектах. У Марскім музеі знаходзіцца шмат прадметаў паднятых з марскога дна. Вялікае ўражанне робяць гарматы і ручная зброя.

***(працяг будзе)***

**(паводле дзённікаў Касі Казімерук і Міхася Сцепанюка)**

# Словы ў голым полі

[1 ☞ *працяг*]

най пэрспэктыве, таксама аптымістычная адзнака — усё ж існуе нейкая раўнавага ў прыродзе.

Па-трэцяе, ня менш аптымістычнае за па-першае і па-другое, беларуская літаратура ўрэшце перастала быць заложніцай аднаго маральнага імпэратыву, які нават самую жудасную графаманію ахінаў грамадзкім і палітычным арэолам ахвяры на алтар народу. Таго народу, якому, з увагі на яго памяркоўны й нешматслоўны (а можа й ціхмяна-засяроджаны) характар, не пашэнціла мець сваіх Дантэ й Мілтана, Бальзака й Дастаеўскага, але якому конча трэба было даць „хоць Янку Купалу" ды, напрыклад, Ніла Гілевіча. Пасьля другога гістарычнага рэфэрэндуму стала ясьней яснага, што ахвяраваць няма дзеля каго, а сам ахвярнік можна больш эфэктыўна выкарыстаць для пячэньня бульбы й сала. Час-часом з гэтага прыгаслага ахвярніка яшчэ пыхне клуб дыму і хутка распусьціцца ў сіверных павевах над шэрай неабсяжнай пустэчай восеньскага калгаснага бульбянішча. А з паднябесных высі яму не адкажа курлыканьне жураўлінага ключа, які кіруецца на Палесьсе.

У гэтым голым полі беларускі пісьменьнік нарэшце знаходзіць доўгачаканую свабоду й тужлівы прытулак самотнага скрыптара. Прастора пісьма стала небясьпечна тоесная прасторы жыцьця.

Праблемай нумар адзін новай, маладой хвалі ў беларускай літаратуры канца 80-тых і пачатку 90-тых стаў пошук новага геаграфічна-гістарычнага й інтэлектуальнага кантэксту для сваіх тэкстаў. Кантэкст нашаніўскага (правінцыяльнага) адраджэньня, які няблага пасаваў да першых крокаў каапэратыву „Тутэйшыя", быў сарамліва пакінуты, калі яго пачаў шпарка асвойваць значна лепш зарганізаваны каапэратыў пад шыльдай „Беларускі Саюз Пісьменьнікаў". Тады зьявілася новая кардыната — эўрапэйская, а потым больш удакладненая — цэнтральнаэўрапэйская. Поўны спадзеву пагляд маладабеларусаў не напаткаў, аднак, арыенціра з надпісам „цэнтар Эўропы", хутчэй за ўсё таму, што сёньня ён памешчаны не ў Эўропе, а недзе ў Амэрыцы, альбо, можа, у Інтэрнэце, гэта значыць, нідзе ў прыватнасьці.

На маю думку, праблемай нумар адзін беларускай літаратуры цяпер, у палове 1997, ёсьць ня столькі недахоп новых кантэкстаў, колькі новых тэкстаў. Калі мець на ўвазе былую сябрыну „Тутэйшыя" й цяперашняе Таварыства Вольных Літаратараў, дык усе іхнія *gesammelte Werke* можна прачытаць за два вечары: за першы вечар Глёбуса, а за другі ўсіх астатніх. Сёньня беларускае можа застацца незаўважаным і маргінальным не таму, што яно далей знаходзіцца на ўскраіне ад якогасьці цэнтру ў нейкай сыстэме каардынатаў, а таму, што яно наогул знаходзіцца нягуста. Пэўным суцяшэньнем у гэтых неўрадлівых абставінах зьяўляецца даволі гучны й напорысты „Бумбамліт", нешта накшталт *маладнякоўскага* фронту супроць глёбусаўска-бабкоўска-аркушаўскага *ўзвышэнства*. Спаборніцтва за віднае месца на родным бульбянішчы, трэба мець надзею, дасьць пры нагодзе й новыя тэксты, а ня толькі бляшаны бразгат.

Калі пастарацца адшукаць супольную пазнаку для колькасна мізэрнай, але стылістычна й сьветапоглядна *сапраўды разнастайнай* беларускай постсавецкай літаратуры, адной з іх напэўна будзе адсутнасьць нейкага ўцэнтраванага эстэтычнага й маральнага арыенціра. У беларускую літаратуру прыйшоў час эстэтычна-маральнага рэлятывізму й амбівалентнасьці. Можна сказаць, што толькі цяпер беларускае прыгожае пісьменства пачало на практыцы засвойваць досьвед эўрапэйскай літаратуры першай чвэрці XX ст., калі тая шукала (і знаходзіла) адэкватныя формы рэакцыі на крызыс рацыяналістычнага сьветагляду XIX ст. Эўрапэйская зьняверанасьць і расчараванасьць развіцьцём цывілізацыі, што вылілася, між іншага, у мэтафізычны жах Кафкі й экзыстэнцыяльны пэсымізм Джойса, абмінула новаўзьніклую й *ex definitione* аптымістычна скіраваную ў будучыню літаратуру нашаніўскай пары. А пасьлявенная й пасьлярэвалюцыйная беларуская літаратура 20-тых была пад ціскам эпахальных абставін настолькі бурапенная і непераброджаная, што не пасьпела пакінуць па сабе прыкметнага асадку сумневу, зьняверанасьці ці роспачы. Потым, пастаўленая пад пісталетам, альбо памірала маладой і нявысьпеленай, альбо завучвала граматычныя й ідэалягічныя правілы сацрэалізму ды ставала на прадукцыйны канвэер. І толькі сёньня, пасьля сямідзесяці гадоў, яна ўрэшце атрымала магчымасьць засумнявацца ў існаваньне нейкай цьвёрдай асновы наогул і адчуць сябе сьцішнавата перад неасвоенымі беларускім словам прасьцягамі мэтафізычнай пусткі. У гістарычнай пэрспэктыве, для літаратуры пачаўся пэрыяд сталеньня.

У вышэй спомненым сэнсе, наша беластоцкае адгалінаваньне беларускага пісьменства знаходзіцца ўсё яшчэ ў сваіх юначых гадох. У 60-тыя гады — на маю думку, найлепшым часе для літаратуры ведамай пад шыльдачкай „Белавежа" — адбылася своеасаблівая рэгіянальная перапастаноўка зьявы названай у беларускім літаратуразнаўстве „нашаніўствам". Тыпалягічнае падабенства гэтых двух літаратурна-культурных народзінаў (віленьскага „нашаніўства" й беластоцкага „ніўства") настолькі вялікае, што пра адрозьненьні (непазьбежныя з увагі на часавы зрух і адрозныя грамадзка-палітычныя абставіны) няварта тут і згадваць. Варта затое прыгледзецца бліжэй самаму істотнаму падабенству.

60-тыя былі для беларускай вёскі на Беласточчыне апошняй дэкадай стабільнасьці, калі беларускі этнас існаваў усё яшчэ як асобнае грамадзка-культурнае й рэлігійнае цэлае (хоць працэс дыфузіі ў горад ужо пачаўся). Пасьля няпэўных 40-вых (супроцьбеларускія акцыі польскага антыкамуністычнага падпольля, рэпатрыяцыя ў СССР) і 50-тых (пагроза калектывізацыі сельскай гаспадаркі, сталінскія перагібы), у 60-тыя прыйшоў час спакою й адноснага дабрабыту ды, што больш істотна, паўсюдна адчуванага грамадзкага авансу беларуса ў сацыялістычнай рэчаіснасьці. Агульны настрой быў аптымістычны. Беларускае літаратурнае слова ў вясковым асяродзьдзі ўспрымалася даволі прыхільна; можна сказаць, што йснавала пэўная зваротная сувязь паміж пісьменьнікам і чытачом (ці, што больш верагодна, слухачом на аўтарскаіх сустрэчах). Інакш кажучы, існавала грамадзкая патрэба ў літаратуры на беларускай мове. Беларуская літаратура ў Польшчы пачыналася ў абставінах жыцьцёвай гармоніі беларускага лёсу. Беларусы ў агульнай масе заставаліся вернымі сваёй натуры. Скрыўленьні беларускага лёсу й характару прыйшлі пазьней, разам з дэмаграфічна разбуральнымі працэсамі ў 70-тыя гады, у час „другой індустрыялізацыі". Потым ужо ўсё было ня так, як раней. З пэрспэктывы сёньняшняга дня, і „нашаніўства" бачыцца як пэрыяд (дэкада. менавіта!) гарманічнай адэкватнасьці беларускага лёсу і той літаратуры. якая яму спадарожнічала. Потым усё пайшло іначай. ня так. як раней.

Значыць, беларуская літаратура ў Польшчы займела сваю маральную аснову і адначасова сэнтымэнтальную Аркадыю (ці, можа, Ітаку) ва ўсходняй паласе вясковай Беласточчыны, у сваёй *малой айчыне*, якую палякі называлі *ścianą wschodnią*. З пэрспэктывы гэтай ідэальнай ваколіцы, якая за 30 наступных гадоў зьмянілася ў нешта зусім іншае, аўтары „Белавежы" глядзелі на ўвесь астатні сьвет і наступны час ды мералі свой жыцьцёвы досьвед меркай адэкватнай да рэчаіснасьці, якая назаўжды прапала. Ёсьць нешта глыбока сымбалічнае ў тым факце, што прадчуваньне сёньняшняй жахлівай катастрофы й ганьбы нашага этнасу з усёй вастрынёй мы знойдзем адно ў творчасьці Надзеі Артымовіч, паэткі амаль цалкавіта зачыненай перад рэальнасьцю навонкі ейнай душы, а не ў творах нашых іншых масьцітых „белавежцаў", больш ці менш адкрытых на грамадзка-палітычны кантэкст свайго часу. Дарма што не пад сацрэалістычным пісталетам, беластоцкая беларуская літаратура ў агульным сваім рэчышчы, таксама як і савецкая, разышлася з плыняй часу, адпрэчыўшы магчымасьць сумневу й затрымаўшы дарагія сэрцу юнацкія ілюзіі.

90-тыя гады, якія прынесьлі істотныя зьмены ў агульным грамадзка-палітычным і культурным раскладзе беларускай энэргіі на Беласточчыне, не далі нічога такога ў літаратуры, што можна было б назваць падзеяй. Парадаксальна, 90-тыя сталі часам даволі дабрага фінансавага забясьпечаньня беларускамоўнай літаратуры. Дзяржаўная датацыя дазваляла выдаць амаль усё, што надавалася для выдаваньня. Але выдавецкая дзейнасьць „Белавежы" была скіраваная перш за ўсё на тое, каб нагнаць мінулыя нішчымныя дэкады й замацаваць той вобраз літаратуры, які выразна абрысаваўся ўжо ў 60-тых. Не адбылося нейкага яскравага й цікавага літаратурнага дэбюту. Зваротная сувязь у трыядзе аўтар-чытач-крытык не ўстанавілася. У грамадзкім вымярэньні, беларускае прыгожае пісьменства засталося зьявай маргінальнай і элітарнай.

Той згустак нацыянальнай энэргіі, што назьбіраўся ў беларускім студэнцкім асяродзьдзі 80-тых, разрадзіўся канчаткова ў палітычнай дзейнасьці пачатку 90-тых і ў пазьнейшых грамадзка-культурных ды навуковых мерапрыемствах, якія, дарэчы, кардынальна скарэктавалі вобраз беларускай мяншыні ў вачох палякаў. Але замест новай паэзіі ці прозы, у 90-тых мы атрымалі зьвышпрадукцыю беларускай гістарычнай літаратуры.

Можна было б у заканчэньне наважыцца выказаць здогад, чаму ж гэта на нашых беластоцкіх гонях ня высьпелілася хоць каліўца нечага літаратурна падобнага ці паралельнага да мурожных разлогаў „Тутэйшых" і прыдарожных быльнягоў „Бумбамліту". Адной з прычынаў можа быць наша колькасная нешматлікасьць. Для ўзгадаваньня якасна новай расьліны трэба, відаць, каб грамадства было колькасна большае за пэўную „крытычную масу", ніжэй якой яно перастае функцыянаваць як нармальны арганізм і можа працягваць існаваньне адно на прынцыпах экзэмпляра ў батанічным садзе. Магчыма, сёньняшняя наша маса ўжо ўпала ніжэй крытычнай адзнакі. Другая прычына, якую лічу больш верагоднай, можа ляжыць у нашым унутраным неўспрымальні гораду як асноўнага *habitat*'у беларускага этнасу адсюль назаўжды. Мы не асвоілі гораду ў такой ступені, як зрабілі гэта нашы менскія суродзічы. А горад жа дае ня толькі „ураджайную глебу для прадбачваньняў" (Н. Артымовіч), але й высьпельвае цудоўныя кветкі сумневу й самоты.

**Ян Максімюк**

# Бельск — ікона, малітва, сон, жыццё

4 чэрвеня г.г. у бельскай ратушы адбылося адкрыццё выстаўкі беларускага мастака Алега Кабзара. Мерапрыемства гэтае, як адзначыў старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа, было наладжана ў рамках праграмы „Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча" і з нагоды „Дзён Бельска-Падляшскага".

„Мой горад маленькі як кропля дажджу" — такі загаловак прыдумаў аўтар свайму вернісажу. Як растлумачыў мастак, сустрэча з творчасцю бельскай паэткі Надзеі Артымовіч была пераломным момантам у яго творчасці.

— Пад уражаннем паэзіі Надзеі Артымовіч я пачаў інакш успрымаць прастору Бельска. Я зглыбіў прастору горада і пабачыў яго своеасаблівае харaство.

Сапраўды ў карціне „Паэзія вясновага горада" мы сустракаем паэтычныя матывы бельскай паэтэсы — музыку старога горада, блакітны сон, малітву, жыццё. Выглядае на тое, што Бельск дачакаўся свайго мастака.

Алег Кабзар нарадзіўся ў 1971 г. у Гомелі на Беларусі, у музычнай сям'і. У 1984—89 гадах закончыў музычна-мастацкую школу імя Ахрэмчыка ў Менску. Далейшую адукацыю прадаўжаў у Акадэміі мастацтваў Беларусі. У 1955 г. абараніў у прафесара А. Марачкіна дыпломную працу пад загалоўкам „Малітва". Гэтая карціна змяшчае матывы са Св. Гары Грабаркі.

З 1996 года мастак жыве ў Бельску, родным горадзе ягонай жонкі Іаланты. Тут таксама мае сваю майстэрню і мастацкія заняткі ў „тройцы". Алег Кабзар энтузіяст і мастацкі апякун Сустрэч „Зоркі".

Мастака захапляе пейзаж. Карыстаецца ён тэхнікамі: алей на палатне і кардоне, рысунак алоўкам. Зараз малюе „бельскія матывы", хоча ўдасканальвацца ў гэтай тэме.

— Бельск — для мяне адкрыццё. Гэта горад са сваёй атмасферай і душой. Ён падарыў мне тэму і натхненне, — сказаў А. Кабзар.



*На вернісажы. Злева: Яўген Вапа, Надзея Артымовіч і Алег Кабзар.*

Варта дадаць, што восенню мае паказацца альбом з карцінамі Алега Кабзара і паэтычнымі творамі бельскіх паэтаў Н. Артымовіч і Ю. Плютовіча. Кніжку мае намер выдаць Беларускі саюз у РП у рамках згаданай ужо праграмы „Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча". А саму выстаўку можна пагледзець яшчэ ў ратушы ў Бельску-Падляшскім да канца чэрвеня.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

# Бліжэй да Беластока

**З Барбарай ПАХОЛЬСКАЙ, намеснікам дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, гутарыць Ада ЧАЧУГА.**

***— Ваяводскі асяродак анімацыі культуры святкуе юбілей 40-годдзя сваёй дзейнасці...***

— Так, ад 1957 года — на працягу 34 гадоў — ён функцыянаваў як Ваяводскі дом культуры, а ад 22 красавіка 1991 года разам з рэарганізацыяй і зменай формулы дзейнасці займеў сённяшнюю назву.

***— Сама назва „ваяводскі" сведчыць аб тым, што Ваш асяродак рэалізуе свае ініцыятывы як у Беластоку, так і на тэрыторыі цэлага ваяводства. Як выглядае профіль вашай праграмнай дзейнасці?***

— Перш за ўсё мы вядзем культурную адукацыю дзяцей, моладзі і дарослых. Адно з нашых важнейшых заданняў гэта прамоцыя непрафесійнай творчасці. Даем метадычную дапамогу інструктарам і калектывам у форме кансультацый, інструктажу і праграмна-рэпертуарных парад. Мы падрыхтоўваем кадры для патрэб культуры, а таксама культывуем культурныя традыцыі нашага спецыфічнага рэгіёна — народную творчасць, фальклор.

***— У рамках дбання пра народную творчасць Вы прысвячаеце вялікую ўвагу занікаючым прафесіям.***

— Ужо шмат гадоў мы вядзем, напрыклад, цыклічныя агляды ганчарскіх вырабаў, пляцёнак, пісанак і іншых вялікодных аздоб. Мы хочам, такім чынам, выхаваць прадаўжальнікаў народнай творчасці. Мы арганізуем таксама семінары, паглыбляючыя веды пра народнае мастацтва і занікаючыя прафесіі. У нас была апрацавана (Зыгмунтам Цясельскім) публікацыя „Przeciw kresowi kresów", якая датычылася праблем рэгіянальнай і наогул народнай культуры. Марым, што калісьці ўдасца нам зрабіць кірмаш народнага мастацтва, які ў значнай меры паўстрымаў бы заніканне народнага мастацтва і стварыў умовы для яго развіцця. Пакуль што аднак фінансавыя праблемы не дазваляюць на гэта.

***— А як выглядаюць справы ў галіне музыкі?***

— Наша майстэрня музыкі, танца і фальклору ўжо 26 гадоў вядзе прэзентацыю традыцыйнай і сучаснай народнай творчасці „У пошуках і пераказванні фальклору". Цыклічнымі мерапрыемствамі з'яўляюцца таксама „Сустрэчы калядных калектываў", „Сустрэчы музыкальных сямей", „Танцавальны карнавал" — агляд існуючых на тэрыторыі ваяводства танцавальных калектываў, а таксама „Заблудаўскія сустрэчы з сакральнай музыкай і паэзіяй".

***— Вядома, што ў ВААКу ёсць тэатральная майстэрня, а таксама выдавецтва, якое выпусціла ў свет некалькі дзесяткаў паэтычных зборнікаў і некалькі кніжак прозы. ВААК арганізуе штораз у іншых мясцінах сустрэчы паэтаў, творчасць якіх інспіруецца народнай паэзіяй. На мерапрыемствах „Паэтычныя растопы", „Сенакосы", „Прымаразкі" гэтыя аўтары маюць магчымасць прадставіць свае творы, абмяняцца вопытам, сустрэцца з крытыкамі літаратуры. На такіх сустрэчах і нам давялося бываць. Ведаем таксама (бо і пісалі мы пра гэта), што ВААК інтэгруе рэдакцыі раённых газет у рамках Беластоцкага цэнтра раённай прэсы, што спрыяе дынамічнаму развіццю гэтых газет. ВААК нясе мерытарычную і тэхнічную дапамогу рэдактарам гэтых газет, а таксама тым, што збіраюцца ствараць газету. Аднак жа няшмат вядома нашаму чытачу, якія формы адукацыі вядуцца ў вас.***



— Мы рыхтуем кадры для патрэб культуры ў рамках двухгадовых інструктарскіх курсаў у розных галінах мастацтва, у выніку чаго курсанты атрымліваюць сярэднюю спецыялістычную адукацыю, а таксама педагагічную адукацыю.

Мы ўдасканальваем кіраўнічыя і інструктарскія кадры дзякуючы спецыялістычным семінарам, міжваяводскім сесіям дзеля абмену вопытам, метадычным семінарам „Мастацтва і тэрапія", адрасаваным інструктарам, педагогам і выхаваўцам, працуючым з інвалідамі і людзьмі з псіхафізічнымі дысфункцыямі, ды інш.

Маім, можна сказаць, каханым дзіцём з'яўляецца наш універсітэт трэцяга ўзросту, які існуе ўжо тры гады. Ініцыятарамі былі праф. Уладзіслаў Сэрчык з Філіі Варшаўскага універсітэта і праф. Войцех Пэндзіх (герантолаг) з Медыцынскай акадэміі.

Мы, навуковая рада гэтага універсітэта, прапануем тэмы, шукаем выкладчыкаў, якія б маглі чытаць даклады бясплатна. Бываюць вельмі цікавыя даклады, як, напрыклад, даклад праф. Яна Францішка Насовіча „Мова, нацыя, талерантнасць". Пасля дакладаў адбываюцца выступленні.

***— Як выглядае супрацоўніцтва ВААКа з беларускімі мастацкімі калектывамі, якіх на Беласточчыне так многа? Ці аказваеце ім, апрача мерытарычнай, нейкую фінансавую дапамогу?***

— Што датычыць фінансаў, дык адразу скажу: не, такой дапамогі мы не аказваем. Аднак жа ўжо добрых некалькі гадоў ёсць у ВААКу штатная адзінка адказнага за беларускія фальклорныя калектывы. Гэта Сцяпан Копа.

Мы дапамагаем упарадкаваць рэпертуар, друкуем запрашэнні, з'яўляемся суарганізатарамі розных беларускіх імпрэз. Мы ўсюды там, куды нас запрашаюць. А то мы на адкрыцці святліцы ў Пасечніках, то на гадавінах „Цаглінак", „Журавінак", „Тыневічанак", „Васілёчкаў". У Тыневічах я была нават кумою, калі „хрысцілі" калектыў.

***— Пані дырэктар! У ВААКу Вы працуеце ўжо 19 гадоў, а 7 гадоў Вы — віцэ-дырэктар. Як гэта здарылася, што Вы пасля заканчэння адміністрацыйна-эканамічнага факультэта ў Філіі Варшаўскага універсітэта пайшлі працаваць „у культуру"?***

— Бо сваю грамадскую працу я пачынала на ніве культуры ў вясковай святліцы.

***— І відаць, што разумееце яе, калі, напрыклад, безагаворачна далі залу ВААКа для выступленняў беларускага прадыколля, матывуючы гэта: „Ну, для такой справы — заўсёды!"***

— Культура не мае межаў!

***— І яшчэ адно, апошняе пытанне: дзе Вы навучыліся так цудоўна спяваць беларускія песні?***

— А-а, гэта тады, калі з роднага Адамава, што пад Мельнікам, я пераехала бліжэй да Беластока, на Міхалоўшчыну.

*Фота Ады Чачугі*

# Турэмная патэрка

У турэмным жаргоне „патэрка" — гэта абрусочак колеру хакі, які турэмшчыкі засцілаюць, кожны свой, пры спажыванні ежы. Палатаныя, пацыраваныя іх жа рукамі, папісаныя рознымі параграфамі ды прасякнутыя пахам прастарэлага тлушчу, якіх ніяк не дамыць, — з'яўляюцца яны, адным словам, картай людскіх лёсаў і трагедый, якія сталіся прычынай такога, а не іншага канца.

Сцены турэмных камераў, якія памятаюць нават па шаснаццаць—васемнаццаць чалавек — гэта анталогія характараў тых, хто там быў. Пераказы становяцца фальклорам і снуюцца, як жыццё.

**Быў такі Чэсік**

— пачынае расказ старэйшы групы. Ён тут тым, каго слухаюць. Мусяць слухаць. Так было і так будзе. І пачынае...

Шчасце адных — няшчасцем для іншых і наадварот. Часам жыццё так крутане, так зажартуе!.. Так было з Чэсікам. З яго жыццё пажартавала аж на дванаццаць гадоў. А яшчэ нядаўна да таго, як яго зачынілі, жыццё здавалася вабіць яго поспехамі, сцелючы пад ногі дываны з філак, пакрытыя вялікай вартасці банкнотамі. Але прыйшоў дзень, калі рэчаіснасць паказала свой сапраўдны воблік.

А было так. Да прадвесня гэтага года Чэсік быў прыкладным мужам і бацькам. Пачціва вёў сваю рамонтную майстэрню і штодзень вяртаўся той самай дарогаю дамоў, не маючы намеру з яе збочваць. Аднак — сталася. Неяк тады, калі снягі пачалі здавацца, Чэсіка, які вяртаўся пасля працавітага дня змучаны дамоў, замест ісці сваёй вуліцай, нешта падкусіла зайсці ў кафейку. Не любіў згушчанага чужога дыму, ані некалькі разоў заваранай тую ж каву, але заказытаў смак піва. Міжвольна адчыніў дзверы. І гэта быў пачатак канца. Ля століка, насупраць дзвярэй — мо дваццацігадовая з доўгімі чорнымі косамі дзяўчына. Нягледзячы на свае амаль пяцьдзесят гадоў, Чэсікава сэрца ёкнула.

„Нашы вочы спаткаліся, — чытаю ў выцягнутым з-пад матраца і пададзеным мне дзённіку камеры. — Хуценька зачыніў дзверы. Але запамятаў яе ўсмешку. Нешта непакоіла".

Жонка Чэсіка ад раніцы здзіўлена глядзела як муж строіцца перад люстэркам. Ніколі такога не было! Быццам бы на баль Чэсік збіраўся.

„А я знаў, што мушу прыгожа выглядаць. Дагэтуль не прыкладаў да гэтага ніякай увагі, але сёння не мог дачакацца канца дня. Цэлы час толькі і думаў пра яе. Калі ў пяць гадзін пасля поўдня адчыніў дзверы, сэрца хвалявалася. Сядзела на старым месцы. Нашы вочы зноў спалучыла ўсмешка. Падышоў і дрыжачым голасам спытаў: „Ці можна?", ды прысеў са сваёю каваю".

Чэсіку здавалася, што свет апусціўся да яго ног. І такім спосабам яго шчасце дало пачатак няшчасцю. Праз нейкі час застаў пад дзвярыма свае спакаваныя чамаданы. Жыў у прыбудоўцы ля сваёй майстэрні, а з Ядвісяй спатыкаліся ў яе кватэры. Хаця жыла адна, дык поры сустрэч вызначала яму даволі дзіўныя. Але пачаткова Чэсік не звярнуў на гэта ўвагі, як на тое, што кватэра, як на адзінокую маладую дзяўчыну з заробкамі сакратаршы, абсталяваная надта шыкарна. І гэтыя дзіўныя тэлефоны!.. Гаварыла, што гэта проста яе шэф дае ёй загады. Гэтым тлумачыла сваю неабходную прысутнасць пры тэлефоне, калі Чэсік запрапанаваў ёй перайсці ў двухпакаёвую кватэру, якую купіў на яе імя. На яе, каб пры падзеле маёмасці не аддаваць жонцы палавіну. Не думаў, што так усё станецца, лічыў на супольную будучыню з Ядвісяй.

„Якісьці час не маглі мы часта спатыкацца. Ядвіся тлумачыла мне гэта навалам працы, хаця адрас яе фірмы я не ведаў. Але бывалі дні, што нават гадзінамі не выходзілі мы з ложка".

Была яна прыгожай, далікатнай, чулай. Дарыла яго пяшчотамі і ласкамі, аб якіх нават не марыў. „Жонка — гэта спадарожнік жыцця, але не партнёр у ложку, — чытаю словы Чэсіка. — Можна яе любіць, нават на свой спосаб кахаць, але задавальненне дасць толькі маладзіцая каханка".

У гэтым тыдні мелі ўвогуле не сустрэцца. Ядвіся сказала, што выязджае ў Варшаву па службовых справах — падпісваць з шэфам дагавор з замежнай фірмай. Скрыганула Чэсіка за грудзі, пранцела па сэрцы хваляй зайздрасць, але нічога не сказаў. Потым супакоіўся, калі ўбачыў як яна сядае ў цягнік.

„Дзень праходзіў чарапашна, — піша Чэсік. — Некалькі разоў прывычна падыходзіў да тэлефоннага аўтамата, але толькі тады прыпомніў, што Ядвісі няма".

Доўга швэндаўся адзінока вуліцамі. Не працавалася ў гэты дзень. Ды ад чаго работнікі? Потым да цямна пасядзеў са знаёмым у рэстаране. Выпілі пад гумар. Вяртаўся дамоў падсвістваючы. Калі сваў сп'янку ключом у замок, ніяк не мог яго перакруціць. „Пэўна добры пакінуў у майстэрні", — падумаў. І тады ўспомніў пра кватэру Ядвісі. Не гаворачы ёй дарабіў быў запасныя ключы. Сам не ведаў навошта. Проста, здуру. Тэпаючы крывавата, дабраўся неяк. Вось і дом. Падняўся на другі паверх і перакруціў ключ. Потым другі замок.

„Тады пачуў я, што ў кватэры як бы нехта быў. Зладзеі! — падумалася мне і адразу выцягнуў з кішэні газ", — піша.

У пакоі гарэла начная лямпачка. Не хаваліся. Ён ляжаў у ложку, накрыты пад шыю коўдраю. На стале стаяла недапітая бутэлька каньяку. Ядвіся ў калідорчыку так, як яе Бог стварыў, рагатала праваклацыйна:

— А што, кватэру тваю зачынілі, га? А яка ж яна твая? На мяне запісана. Але праходзь, распранайся ды лягай. Памесцімся ўтраіх. Цікавей будзе. А ты думаў, з чаго я жыву? Закахалася? У цябе? Як да кліента я ў кафейцы ўсміхнулася. Кладзіся! Табе дарам будзе.

Чэсіка панесла. Уступіла ў яго нейкая дзікасць. Схапіў са стала недапітую бутэльку і з размаху лупануў кліента па галаве. Трэснулі і чэрап і бутэлька. Запахла крывёй і каньяком. У гарачцы Чэсік сцягнуў коўдру і разбітай бутэлькаю саданул мужчыну між ногі. Той яшчэ жыў. Кідаўся ў дрыготках. Ашарашаная Ядвіся маўчала. Завішчала толькі тады, калі голую пасадзіў яе на гарачую кухонную пліту. Засквірчэла, а ён усё яе трымаў.

— Морда застанецца і будзе ўсміхацца, але кліентаў не будзе! — закрычаў Чэсік.

Ядвіся абамлела, ссунулася на падлогу. Па хаце несла спаленым целам. На крык збегліся людзі. Чэсік моўчкі сядзеў і курыў.

— Званіце ў паліцыю! — сказаў нарэшце.

**Міхаль Пашкоўскі**

# Пушчанскія краявіды

У пачатку сёлетняга турыстычнага сезона ў Белавежы паявіліся новыя паштоўкі, выдадзеныя прыватнымі прадпрымальнікамі.

Серыю з 4-х картачак выпусціў кіраўнік аднаго з белавежскіх турыстычных бюро „Earth Sniffers” (Абнюхваючыя зямлю) і заадно ўласнік крамы з каштоўнымі камянямі Славамір Марчук. Усе паштоўкі прадстаўляюць раку Лясную ў Белавежскай пушчы. Здымкі былі выкананы апошняй зімы. На адным з іх можна нават прыкмеціць вядомага белавежскага вандравальніка д-ра Сяргея Тарасевіча, які зараз знаходзіцца ў ЗША. Вока асабліва прыцягвае здымак з аснежанай чырвонай калінай. Надпісы на паштоўках проста паэтычныя: „Глыбока ў лес, глыбока ў мароз”, „Пад снежнай пярынай”, „У зімовым лесе не толькі адна кроў чырванее” і „Выкаранёныя”. Шкада толькі, што нідзе няма інфармацыі, што здымкі былі выкананы менавіта ў Белавежскай пушчы. Спадар Марчук плануе выпусціць у чэрвені чарговую серыю паштовак.

Другую серыю з 8-мі паштовак выпусціў вядомы ўжо ў Польшчы малады фатограф-прыродазнаўца Павел Фабіянскі. На двух здымках бачым зуброў, ёсць і паштоўка з рыссю. Чарговыя тры здымкі паказваюць пушчанскія нетры: урочышча з паваленай елкай, раку Лясную (здымак амаль ідэнтычны з адным са здымкаў С. Марчука, толькі што выкананы ранняй вясной) і паляну з квітнеючымі анемонамі. Апошнія картачкі з краявідамі: палявой дарогі ля Белавежы, залітай веснавой вадой, і з квітнеючай грушай, з-за якой відаць белавежскі каталіцкі касцёл. Уся серыя мае дзве заганы — надта шаблонныя надпісы і непрапарцыянальнае размяшчэнне адраснай палоскі.

Усё паказвае, што названыя паштоўкі не будуць апошнімі гэтага лета.

**Пётр Байко**

# Так як войт задумаў

**Тапчыкалы маюць за сабою пяць стагоддзяў гісторыі. У 1654 годзе былі яны другой па колькасці насельніцтва вёскай у арлянскай маёмасці. Цяпер Тапчыкалы налічваюць 126 жыхароў і 36 гаспадарак.**

— Пра нашу вёску Гмінная ўправа ў Орлі не дбае, — кажуць з жалем жыхары Тапчыкалаў. — У канцы вёскі, а там стаіць дзесяць будынкаў, няма нават бруку. Калі чатыры гады таму пракладалі водаправод, вуліцу раскапалі. Цяпер вясной, восенню ці пасля дажджу нельга сюдою праехаць. Калі гміна асфальтуе вуліцы па вёсках на т.зв. дзікім захадзе (Малінніві, Маскоўцы, Вулька-Выганоўская), а нават палявыя дарогі, тады чаму нельга паправіць дарогу ў Тапчыкалах?

Тапчыкалы не маюць нават свайго раднага. Іх інтарэсы мае прадстаўляць радны з Шарнёў, але і ён не дбае пра суседнюю вёску.




— Гляньце як у нас выглядае святліца, — паказваюць на будынак з адваленым тынкам. — Гэта ж гмінны будынак. Ад часу, калі была ў ім крама, ніхто ў ім не праводзіў рамонту. На сценах адлупілася фарба. Калі прыходзіцца склікаць вясковы сход, то сорам туды ўвайсці.

Людзі ў Тапчыкалах узбударажаны негаспадарлівасцю гмінных улад. Як прыклад паказваюць на машыну „Фольксваген”, якую купіла сабе Гмінная ўправа, ці на ўтрымоўванне школы ў Малінніках, дзе вучыцца мала дзетак, якіх можна было б вазіць у Орлю.

Солтыс **Юрка Кулік** на пытанне аб праблемы вёскі адказаў так:

— Быў я нядаўна ў Гміннай управе ў справе палявой дарогі, на якую навезлі жвіру, але не выраўнялі, хаця ў гміне ёсць свой грэйдэр. Войта тады не было, але чыноўнікі абяцалі дакончыць гэтую дарогу.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

<u>Адгалоскі</u>

# Не засмечвайце лясоў!

У „Парнасіку” Мікалай Панфілюк часта ў сваіх вершах апісвае лес, ваду, заклікае берагчы іх, даказвае іх значэнне ў чалавечым жыцці. Але народ не слухае заклікаў паэтаў і эколагаў, ды надалей забруджвае навакольнае асяроддзе.

Ехаў я 3 чэрвеня на легкавой машыне з Беластока ў Трасцянку і на чацвёртым кіламетры за Заблудавам у напрамку Нарвы на абочыне шашы заўважыў два фольгавыя мяшкі са смеццем. Былі яны акуратна завязаныя. Напэўна іх не паставілі жыхары недалёкіх Гнецюкоў, але мусіў іх там пакінуць нейкі неахайнік з горада, які прыязджаў сюдою на машыне.

На другім кіламетры дарогі з вёскі Бялкі ў Трасцянку ў пачатку чэрвеня ляжала нежывое цялятка ў фольгавым мяшку. А каля самое вёскі Бялкі, за стадоламі, дзе геадэзіст вызначыў кавалак зямлі на жвіроўню, людзі вывозяць рознае смецце і выкідаюць здохлых курэй. Ноччу сабакі расцягваюць іх па панадворках. На жвіроўню смецце вывозяць жыхары Бялкоў, хоць паўкіламетра ад вёскі ёсць месца для звалкі.

Гмінныя ўлады з Нарвы стараюцца прадухіліць забруджванне асяроддзя. Імі падрыхтавана месца для звалкі, а жыхарам гміны раздадзены фольгавыя мяшкі на смецце. Рэгулярна прыязджае трактар і забірае мяшкі з паасобных вёсак і вязе на звалку. За дбайнасць пра асяроддзе я шчыра дзякую гмінным уладам з Нарвы, а людзей паасобных вёсак заклікаю не засмечваць нашы лясы, якія ачышчаюць і так моцна атручанае паветра.

**Мікалай Лук'янюк**

# „Bel Canto” Яна Палавянюка

На нядаўна закончаным XVI Фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы альштынскі настаўніцкі хор „Bel Canto” пад кіраўніцтвам Яна Палавянюка заваяваў першую ўзнагароду ў катэгорыі аматарскіх свецкіх хораў ды спецыяльную ўзнагароду за найлепшае выкананне сучаснай кампазіцыі інспіраванай царкоўнай музыкай; дырыжор хору ўзнагароджаны яшчэ індывідуальнай узнагародай.

Хор „Bel Canto” быў заснаваны ў маі мінулага года. Налічвае ён 35 чалавек, у большасці настаўнікаў, але ёсць і прадстаўнікі іншых прафесій ды студэнты; усе яны маюць музычную адукацыю. За год хор даў пятнаццаць канцэртаў, м.інш. падчас адкрыцця помніка Яну Непамуку і падчас інаўгурацыі Тыдня хрысціянскай культуры. Першую гадавіну свайго існавання 11 мая г.г. хор адзначыў выкананнем „Stabat Mater” Джавані Пергалезі ў Альштынскай філармоніі, дзе Ян Палавянюк, кіруючы адначасна мясцовым сімфанічным аркестрам, бараніў сваю першую ступень дырыжорскай спецыялізацыі. У рэпертуары хору ёсць і другія сакральныя творы, як „Missa Criolla” Раміраза і „Missa Paschalis” Гарчыцкага. Варта згадаць, што раней Ян Палавянюк паспяхова кіраваў хорам „Collegium Baccalarum”, які даў каля двухсот канцэртаў, у тым ліку ў Бельгіі і Францыі.

**Андрэй Гаўрылюк**

# За грамадскую справу трэба змагацца

Ад 1 чэрвеня г.г. ПКП увяла новы расклад руху цягнікоў, які абавязваць будзе у летнім сезоне. Многія з нас ставяць пытанне: навошта так часта мяняць расклад? Гэта ж аграмадны выдатак, зважыўшы нават на тое, што друкаванне адных кніжных раскладаў каштуе дзесяткі тысяч злотых. На што спасылаюцца чыгуначныя эканамісты: на рыначную эканоміку, ашчаднасці, паляпшэнне паслуг грамадству? Ніводзін з гэтых фактараў не падыходзіць да рэчаіснасці. Канстатую гэта як былы чыгуначнік і пастаянны назіральнік за гэтымі справамі.

Паспрабуйма пакрысе паразмысляць і разгледзець справу на падставе фактаў. Вось першы прыклад.

У лютым мінулага года, у сваёй публікацыі „Балаган ці эканоміка?”, я паказваў недарэчнасць рашэнняў Цэнтральнай дырэкцыі ПКП, якая адмяніла курсіраванне прамога цягніка па маршруту Чаромха—Беласток у $6^{30}$ раніцы. Адна неразважная (а мо свядомая!) думка нейкага чыноўніка ў Варшаве нанесла вялікую шкоду чыгунцы, і пазбавіла грамадства найбольш зручнага транспарту. Каб вярнуць гэты поезд мясцовы самаўрад, а таксама начальнікі ўсіх чыгуначных служб у Чаромсе і прыналежных да яе станцый вымушаны былі некалькі гадоў пасылаць беспупынна прашэнні і заявы ў Цэнтральную дырэкцыю. Чыгуначная вярхушка не лічылася з грамадскай думкай. Яна кіравалася сваімі прынцыпамі, якія прынеслі для яе з сабой прыватызацыя і новы парадак.

Ад 29 мая 1996 г. змяніўся чарговы расклад руху, у выніку якога вярнулі ранні цягнік у $6^{30}$ з Чаромхі ў Беласток (аднак забралі поезд з Чаромхі ў Беласток у $5^{03}$).

У сваёй карэспандэнцыі „Дзе ж ваша эканоміка, спадар дырэктар?”, якую друкавала „Ніва” ў 43 нумары ад 27 кастрычніка мінулага года я зноў паказаў прыклады негаспадарлівасці ў чыгуначным прадпрыемстве. На працягу года ніхто нават пальцам не варухнуў, быццам вады ў рот усе набралі!

І маем чарговую недарэчнасць!

У цяперашнім раскладзе, надалей курсіруе „поезд-пустагон” з Беластока ў Бельск у $3^{55}$. Для перавозкі некалькіх пасажыраў (часам ніводнага) дасылаецца апоўначы лакаматыў з кіраўніком поезда з адлеглай амаль на 80 км Чаромхі. Некаторыя людзі з Бельска скажуць пэўна, што гэтым цягніком даязджаюць яны на працу ў Беласток. А я зараз спытаю, якім транспартам будзе „дабірацца” ў Беласток рабочы з-пад Чаромхі ці Рыгараўцаў, якому трэба ставіцца ў сем гадзін раніцы на работу? Цягнік у $4^{17}$ забралі. Паехаць у $5^{03}$, позна. Раптам на 15 мінут спазняецца. А з Бельска „пустагон” ад'язджае перад шостай. Ці гэта не абсурд?

Каб лагічна падумаць і рашыць праблему, хапіла б раней „пусціць” поезд з Чаромхі (не ў $5^{03}$, а напрыклад у $4^{45}$). Ён пачынае ход з Чаромхі. Не трэба было б падсылаць лакаматыва тады ў Беласток, бо цягніком у $4^{45}$ даехаў бы кожны ў назначаную пару, на сёмую гадзіну раніцы.

Прыклады негаспадарлівасці на дзяржаўнай чыгунцы можна прыводзіць дзесяткамі, сотнямі, а мо і тысячамі ў маштабе краіны. Але ніхто з-за гэтага не клапоціцца, ніхто нікога за гэты балаган і негаспадарлівасць не разлічае. Сведчыць аб гэтым хоць бы апошняя публікацыя Пятра Байко з Белавежы „Вярнуць чыгунку!”, якую „Ніва” друкавала ў 22 нумары ад 1 чэрвеня г.г. Сведчыць аб гэтым таксама факт, што чатыры гады пасылаю няспынна заявы ў цэнтральныя чыгуначныя ўстановы, каб разлічыць балаганшчыкаў з Чаромхі, Седльцаў і Варшавы. Маё апошняе выступленне ў той справе да Генеральнага дырэктара ПКП ад 21 кастрычніка мінулага года і 19 лютага 1997 года засталіся без адказу. Таксама, як і ў справе Белавежы, аб чым піша П. Байко. Цешаць мяне, аднак, ягоныя словы: „Ці зварот грамадзян РП у вярхоўныя органы дзяржавы дапаможа ў вырашэнні балючай справы? Пабачым! Добра і тое, што „эканамістам” з ПКП спаць спакойна не дадуць”. Я згодны з аўтарам! Пакуль такія, як мы, „барацьбіты” будуць змагацца за грамадскую справу, чыгуначныя начальнікі не могуць спаць спакойна! Нам трэба аб'яднацца, і супольна змагацца за тое, каб не дазволіць адзінкам рэалізаваць свае планы „зарацъ чыгунку на рубяжах усходняй граніцы”, пакінуць насельніцтва Белавежы, Чаромхі ці Бельшчыны самім сабе. Да таго нельга дапусціць!

**Уладзімір Сідарук**

# Позірк у мінулае

**29 чэрвеня**

1586 г. — памёр Прымож Трубар, славенскі асветнік. Народжаны ў 1508 г. у сялянскай сям'і, вывучаў тэалогію ў Рыецы, Зальцбургу і Трыесце. З увагі на пратэстанцкія сімпатыі вымушаны быў уцякаць у Германію, дзе каля Цюбінгена заснаваў выдавецтва рэлігійных кніг для славенцаў; там выпусціў першыя на славенскай мове кнігі: катэхізіс і асновы славенскага правапісу. Пераклаў таксама на славенскую мову і выдаў у 1582 г. „Новы запавет".

**2 ліпеня**

1566 г. — памёр Мішэль Нострадам, французскі лекар і астролаг. Нарадзіўся ён у 1503 г. у іудзеа-хрысціянскай сям'і; бацька яго быў натарыусам, а абодва дзяды былі прыдворнымі лекарамі і астролагамі. Дзяды заняліся адукацыяй унука, навучаючы яго грэчаскай, лацінскай і яўрэйскай мовам ды яшчэ медыцыне і астралогіі. На лекара вывучыўся ў Манпелье. У той час на поўдні Францыі ўспыхнула эпідэмія чумы і малады лекар мог праявіць свае прафесіянальныя веды. Нострадам не баяўся чумы, ад якой у Манпелье ўміралі сотні людзей за дзень. Правёў там гады 1525—31, а пазней падаўся ў Аахен, дзе пасябраваў з адным са знатнейшых гуманістаў тае эпохі Джульем Скаліджэрам. У Аахене ажаніўся, аднак новы выбух чумы забраў ягоных жонку і двое дзяцей. Пакінуў ён тады Аахен, бо яшчэ і пагражала яму абвінавачанне ў ерасі, калі нагануў ліцэйшчыкам, што адлівалі статую Дзевы, пра біблейную забарону ствараць культавыя вывы. Ужо тады Нострадам пачынаў паказваць свой дар яснабачання. У Італіі пазнаёміўся ён з юнаком Феліксам Перэцім, і калі той стаў манахам, кінуўся яму да ног са словамі „Свяцілецтва!"; пазней, ужо пасля смерці Нострадама, Ф. Перэці быў абраны папам Сікстам V. У 1544 г. Нострадам вярнуўся ў Марсель зноў змагацца з чумою, а два гады пазней перабраўся ў Экс-дэ-Праванс. Жыццё ў горадзе амаль цалкам спынілася, вуліцы былі запоўнены трупамі. Нострадам ужо тады ўсведамляў патрэбу чыстаты, а варта ведаць, што яшчэ да мінулага стагоддзя многія лекары не прызнавалі існавання заразных мікробаў. У 1547 г. пасяліўся ў Салон-дэ-Праванс, ажаніўся там, і рэшту жыцця прысвяціў лячэнню і пісанню гаданняў. У 1555 г. выдаў кнігу „Цэнтурыі", у якой гаданні былі няясныя, без ладу і складу — баяўся ён абвінавачання ў чараўніцтве. Адна са страфаў прадказвае напр., што ў сёмым месяцы 1999 г. вялікі цар анголмаў, цар тэрору спусціцца з нябёсаў і тады Марс будзе панаваць на дабро людзей. Два гады яшчэ да таемнага здарэння і многія сушаць мазгі, што б гэта магло абазначаць. Адны мяркуюць, што царом тэрору можа быць ядзерная бомба. Другія — што анголмы, гэта анаграма манголаў — „жоўтая пагроза". Яшчэ іншыя спадзяюцца нашэсця касмітаў. А ёсць і такія, якія сыходзяць з палажэння, што свет мае існаваць сем тысяч гадоў ад стварэння, і з 1999 г. астанецца да канца толькі тысяча мірных гадоў; праз два гады мае быць толькі пачатак канца, а не сам канец. Нострадам прадказаў таксама, што сам памрэ на лаўцы каля ложка; так яно і сталася.

(Ш)

# Парнасік

## Касілка — пагроза для птушак

Ратацыйная касілка — горшая
ад змяі-гадзюкі,
Для жывое прыроды нясе страты
і мукі.
Косіць траву вельмі нізка,
Ля самых птушыных гнёзд блізка.
Знішчае іх, рэжа;
На гэта няма граніц, межаў.
І некаторыя віды птушак звядуцца.
Цікава, ці на мой кліч людзі
адазвуцца...
Так, тэхніка наш труд аблягчае,
Аднак вялікі недахоп у сабе мае:
Для прыроды яна вораг смяротны,
А для чалавека сябра родны.
Касілка рэжа як гільяціна,
А мы на гэта глядзім мірна
І нат не падумаем, што яна рэжа
жывыя птушаняты,
А дзе не трэба, кладзем лаянку і маты.
На жаль, мой верш паратунку
не дасць,
Але хачу верных прыродзе пазваць:
Ратуйма прыроду як можам,
Хіба што аслабнем і ўжо не зможам.

**Мікалай Панфілюк**

## Што дзееца ў прыродзе?

Калісь усё ішло сваім парадкам.
Кожная пара года была адменнай.
Цяпер усё перамяшалася.
Зіма, як не зіма. Надвор'е мяняецца.
Трохі снегам пацярушыць, трохі
памарозіць а пасля дождж ідзе.
Цёпла быццам на прадвесні.
Вясной часта снег ідзе ды
мароз люты ўсё марозіць.
Летам рэдка калі цяпло.
Халодныя ветры і дажджы
Пахмурныя і сумныя дні.
Прыпякае сонца, ажно ўсё
спаліць або дождж ідзе
заліваючы палі, дамы, лугі.
Восень нярэдка маразам вітае.
Ажно лісце на дрэвах замярзае.
Не бачым бабінага лета,
прыгожай залатой восені.

**Аўрора**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. сібірскі падатак даўней, 8. жыў у табары, 9. лоўля з акружэннем, 10. бог кахання, 11. афіцыйная плата, 13. яд, 15. гліністая глеба, 16. дзік, 20. дэкаратыўная расліна з чырвона-жоўтымі кветкамі, 22. будаўнічы гіпс, 23. нямецкая залатоўка, 27. чалавек, праткнуты высокімі пачуццямі, 29. загарада для авечак, 30. форма літар, 31. гоман, 32. стыль у мастацтве, 33. драпежная жывёліна сямейства кашэчых, 34. раніцай на траве.

**Вертыкальна:** 1. генератар пастаяннага току, 2. горад у Грэцыі, 4. прытвараецца хворым, 5. мусульманская Біблія, 6. канторскі служачы, 7. не будзень, 12. заснавальнік, 14. хан Залатой Арды, XIV-XV ст., 16. памазок з пакулля, 17. лодка для катання па лёдзе, 18. родны горад Карла Маркса, 19. рака ў Іспаніі, 21. горад на Таха, 24. наваколле, 25. верхняя вопратка з доўгімі поламі, 26. подкуп, 27. літаратурны твор, 28. рухавік. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 19 н-ра:**

**Гарызантальна:** кукса, пастронак, плынь, янтар, лад, валакно, абеліск, Бах, ануча, качан, ялавічына, Адэса.

**Вертыкальна:** Скарына, косць, Агнія, прыгажуня, каталічка, Прага, русін, лоб, дах, архірэй, атава, крыга.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Шыманскай** з Орлі і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Папраўка

У артыкуле Пятра Байко „Юбілей заслужанага музея" („Ніва", № 24 ад 15 чэрвеня 1997 г., стар. 4) рэдакцыяй была дапушчана памылка, якая датычыць даты заснавання Прыродазнаўчага музея ў Белавежы. Павінна быць напісана так: **Музей гэты быў здадзены ў карыстанне 27 чэрвеня 1972 года. З таго часу мінула чвэрць стагоддзя.** Аўтара і чытачоў сардэчна перапрашаем.

Рэдакцыя

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! У нашай сям'і здарылася няшчасце. Нядаўна пахавалі мы пляменніка. Малады ён быў, але хварэў ад даўжэйшага часу. Я страшэнна перажыла яго смерць і цяпер ніяк супакоіцца не магу. Уначы цяжка мне ўздрамнуць. Але нейк заснула і вось які сон мне прысніўся. Прыйшлі да мяне на кватэру мама і тата (яны ўжо даўно памерлі і даўно мне сніліся) ды прывялі з сабой цялятка. Я гляджу здзіўлена на іх і кажу: „Такое слабенькае, яно вам жыць не будзе". А яны кажуць: „Нічога, яно мае апетыт, есць добра, то і жыць будзе". Што гэта такое, Астроне?

**Анна**

Астроне! Сніўся мне такі сон: быццам у нас (здаецца, на працы) ёсць вялізная пальма — юка, вельмі прыгожая, з буйным чубам лісця — і такога, як у юкаў, і яшчэ яго там нарасло нейкага вельмі прыгожага лісця, драбнейшага, як фантан. Трэба было пень парэзаць на тры часткі (каб іх пасадзіць, каб выраслі новыя пальмы), а апошнюю, верхнюю частку, прыстрыглі. Я ў сне плачу, а ўсе кажуць, што добра.

**Мірка**

Дарагі Астроне! Снілася мне, што мы з дачкою сеялі зярняты ў карыта, шырачэзнае, як пакой. Зерня было вельмі многа, ды сеялася нам прыемна, спорна.

Што прадвяшчае гэты сон?

**Зіна**

Анна! На жаль, не магу цябе пацешыць. Сон, які табе прысніўся, абазначае, што будзеш мець нейкія праблемы (бацькі, хаця і былі ўжо нябожчыкамі). Тое цялятка, незалежна ад таго, ці яно мае апетыт ці не мае, абазначае, што будзеш мець промахі ў справах.

Твой, Мірка, сон добры. Пальма прадвяшчае радасць і поспех у творчых справах, а тое што пальма гэта была быццам у цябе на працы, гаворыць за тое, што працуеш творча (літаратура, мастацтва). Тое, што ты плакала, сапраўды прадвяшчае радасць.

Зіна! Твой сон пра зярняты абазначае поспех у справах ці ў гаспадарцы, добры ўраджай.

**Астрон**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 729. Анна Клімюк (Гайнаўка) ........ 8,00 зл.
4 730. Ірэна Аніщчук (Гайнаўка) ........ 5,00 зл.
4 731. Ян Васілюк (Гайнаўка) ........ 5,00 зл.
4 732. Аляксандр Гаўрылюк (Курашава) ........ 3,00 зл.
4 733. Ахвяраванні сабраныя спадарыняй Аленай Анішэўскай падчас сустрэчы з д-рам Антонам Мірановічам у Варшаве 16 красавіка г.г. ........ 55,00 зл.
4 734. Юрась Сцяпанаў (Віцебск) ........ 20,00 зл.
4 735. Ірэна Аніщчук і Аляксандр Гаўрылюк (Курашава) ........ 40,00 зл.
4 736. Канстанцін Лукашэвіч (Беласток) ........ 15,00 зл.
4 737. Васіль Петручук (Беласток) ........ 10,00 зл.
4 738. Раман Дзвілінскі (ЗША) ........ 40,00 зл.
4 739. Анджэй Волчак (Ляска) ........ 30,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.


# Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Хлопцы

Мае хлопцы дарагія,
Трэба вам гэта знаці,
Што калі знайшоў дзяўчыну,
Трэба яе шанаваці.
Бо тая дзяўчына,
Як каліны кветка,
Калі яе ты зломіш
То засохне хутка.
Як цвіце каліна,
То нельга ламаці.
Пакахаў дзяўчыну —
Трэба шанаваці.
Дзяўчо, маё сэрца,
Я цябе кахаю,
Згуляем вяселле,
Будзем жыць як у раю.
З такою прысягай
Да дзяўчыны звярнуўся,
А згулялі вяселле —
Чортам абярнуўся.
Стаў кругом хадзіці,
Другое шукаці,
Бо гэта няздара.
Не ўмее даглядаці.
Так ён разгуляўся,
Так пачаў гуляці,
Што кінула жонка.
Цяпер жыве з маці.

**Мікалай Лук'янюк**

# Ніўка




*Малюнак Т. БАРАНАВАЙ*

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Не магу паверыць, што ты, заўзяты стары кавалер, ажаніўся!

— На жаль — дома назбіралася столькі бруднай пасуды, што не меў другога выхаду.

* * *

— Чаму ў цябе такая ідыятычная міна?

— То ты не чуў, што я ажаніўся?!

* * *

Маладая жонка паказвае сяброўцы новую кватэру.

— У вас дзве спальні!? — дзівуецца госця. — Спіце аддзельна?

— Вядома! Гэта ж цяпер у модзе.

— Не хачу быць дапытлівай, але... як вы кахаецеся?

— Гэта проста: калі муж мае ахвоту — цмокае.

— А калі ты захочаш?

— Тады іду ў яго спальню і пытаю, ці ён не цмокаў.

* * *

Муж да жонкі:

— Мусім пачаць жыць ашчадна.

— Выдатна! Напачатак прадамо сабаку: брахаць магу сама.

* * *

— Якія прыметы павінен мець мужчына, каб стаць вашым мужам? — распытвае на вуліцы жанчын журналіст.

— Мусіць быць стройны, — адказвае адна.

— Мусіць любіць дзяцей, — мяркуе другая.

— Павінен быць элегантны і мудры, а да таго ж і высокі, — адказвае трэцяя.

У тым часе побач праходзіць прыгожая жанчына з мізэрненькім мужам пад рукою. Журналіст звяртаецца да яе:

— Гэта ваш муж?

— Так.

— А ці можна даведацца, што вырашыла гэтакі ваш выбар?

— Ну што ж: муж, гэта няўхільнае зло, і таму і выбрала найменшае.

* * *

Маладажоны сварацца:

— Вяртаюся да мамы! — заяўляе яна.

— Запозна, — адказвае ён. — Учора пасварылася яна з тваім бацькам і вярнулася да тваё бабулі.

* * *

— Ну і як смакаваў табе мой суп? — пытае маладая жонка мужа.

— Даволі добры, але было б яшчэ лепей, калі б ты да солі дадала больш тага супу.

**У кіпцюрах цацерука**

# Споведзь

Усякія людзі пытаюць мяне, чаму я, бетоншчык косць ад косці, займаюся паэзіяй, бы нейкі прыстойны настаўнік, лекар або прынамсі запасны афіцэр. І кожнаму, хочаш не хочаш, трэба тлумачыць што і як, пачынаючы амаль з малых, засморканых гадоў.

Карыстаючыся нагодай, што тыя людзі, якія пішуць таксама, чытаюць газеты, гавару праўду, толькі праўду і ей Богу праўду:

У паэтычны шлях адпраўляўся я даўно, даўно таму і, што дзіўнае, не як бетоншчык, а малады і перспектыўны кіраўнік неіснуючага сення асяродка культуры ў таксама ўжо неіснуючай мясцовасці. І менавіта тады на агульнапольскі конкурс напісаў я свой першы верш „Крэсла":

*Кажуць — крэсла звычайная рэч,*
*ножкі (чатыры), падсрачнік...*
*А крэсла — мой дамаскі меч.*
*І панцыр мой нябачны.*
*Схавайце крэсла, а кабінет*
*губляе адвагу, як*
*абрабаваны з вершаў паэт,*
*ці з маладосці юнак.*

Шаноўная конкурсная камісія доўга моршчыла нос над дзіўным словам „падсрачнік", якога не было ў агульнадаступных слоўніках, усё-такі верш узялі на разгляд. Старшыня камісіі сказаў нат, што я здольны і перспектыўны і што трэба мне вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца.

І я пачаў паглыбляць свае веды. Вучыўся доўга і шчасліва, а потым напісаў доўгую дысертацыю „Фальклор і абраднасць вёскі Сучкін Сад". У частцы прысвечанай вясельным песням змясціў я такую вось частушку:

*Весяліся х...*
*вязуць маладую,*
*станавіся рогам,*
*чакай за парогам.*

І гэтая частушка была прычынай усіх маіх жыццёвых паражэнняў. Вучоная камісія сказала, што частушка „Весяліся" да вёскі Сучкін Сад ніякага дачынення не мае. Спяваюць яе госці, праўда, аднак у вёсцы Падзалукі, пра што выразна гаворыцца ў кніжцы „Białoruska obrzędowość i folklor..."(стар. 109).

Працу адкінулі, а я быццам наш актуальны прэзідэнт пасля доўгай навукі апынуўся ў неадукаваных.

Прыйшлося мне працаваць у бойні. І вось у гэтым малапаэтычным акружэнні я не забыў пра паэзію. Пісаў:

*Я закаханы ў свіныя кілбасы,*
*люблю і смак, і водар іх багаты.*
*Штодзень напоўнены паэзіі мясам*
*Вяртаюся дахаты.*
*А жонка хітра заглядае ў вочы,*
*чатыры шынкі, пары дзве кілбас*
*пяшчотна гладзіць. Так пяшчотна ноччу*
*паэты носяць вершы на Парнас.*

Я ніколі і не падумаў, што тоўсты, вечна заслінены дырэктар бойні чытае літаратурныя часопісы. А ён, аказваецца, чытаў. І вось такім чынам перастаў я прыносіць каўбасу дамоў, а наадварот, гэта мне раз у месяц жонка прысылала „пачку". Атрымаў я гэтых пачак якраз поўны тузін.

Вяртацца ў бойню, разумееце самі, не было сэнсу. Калі цяпер мяшаю бетон, нейкае нябачнае натхненне выстуквае на рыдлёўцы такія вось рытм і рыфм:

*Бетон, ого, бетон!*
*Непераможны ён і незаступны ён.*
*На выгляд — гравій, цэмент і вада,*
*змяшай усё, а стаяць будзе*
*да страшнага суда.*
*Сёння пяром, як кельняй зручны майстар,*
*нягледзячы, што вечар сонны,*
*будую верш — адказ усім гультайствам.*
*Бяссмертны ён,*
*Таму, што ён бетонны.*

**Міхась Андрасюк**

# Сардэчныя тайны

Міленькае Сэрцайка! Не ведаю, ці зразумееш ты мяне, але ў маім жыцці здарылася трагедыя. Першы раз праспалася я з хлопцам і зацяжарыла.

Я магла б у любы момант выйсці за яго замуж, так ён мне падабаецца. Але ён... Цэлых два тыдні хадзіў за мною, як апантаны, уздыхаў і глядзеў прымільна мне ў вочы. А калі дабіўся свайго, дык нават і не прыйшоў да мяне больш.

Што я магла зрабіць?! Ісці да яго, кланяцца, прасіць у яго ласкі, каб ажаніўся са мною і быў бацькам дзіцяці?! Ён жа вельмі добра ведаў, дзе я жыву, ды ведаў таксама, што ніхто б нам не перашкодзіў, бо я наймаю асобную кватэру. Аднак жа хлопец як у ваду кануў.

Што перадумала я за першыя месяцы цяжарнасці, цяжка табе апісаць. Ну, і што сказаць бацькам? Яны ж мне так верылі... Аднойчы я не вытрымала і пазваніла хлопцу на работу. Мы дамовіліся ў кавярні. Я бачыла, што ён хвалюецца. Усё ў яго роце перасохла. Быццам ён прадчуваў нядобрае. Калі я сказала яму, што здарылася, ён вельмі здзівіўся, як гэта магло стацца. Я ж толькі да цябе дакрануўся, сказаў ён мне, нават не быў у сярэдзіне, а ты мне тут такое гаворыш.

Даражэнькае Сэрцайка! Ён быў маім першым і адзіным хлопцам. Я і сама не думала нават, што зацяжарыць можна так проста. А вось жа, бачыш, што выйшла.

Крыўдна мне, што яго адносіны да гэтага факта такія абыякавыя, а, я б сказала, нават вульгарныя. Быццам я маню, ці што? Ён жа ведае, што я яшчэ была дзеўкай, то калі я мела зацяжарыць?!

Хлопец гэты вельмі прыгожы, ён мне надта падабаецца. Ад часу, калі здарылася тое, пра што я табе пішу, ён, нягледзячы на тое, што адвярнуўся ад мяне, стаў мне нейкі мілейшы. Гэта ж яго дзіця я нашу ў сабе, думала я, і ў вачах уставаў яго вобраз, а на сэрцы рабілася цёпла.

Я пагаварыла з маёй найбліжэйшай сяброўкай. Расказала ёй пра ўсё. І яна параіла мне пакінуць яго ў спакоі. І так пачуццяў з яго боку не відаць. Ён так кожную дзеўку гатоў на адзін раз у пасцель зацягнуць. Абы яшчэ раз пераканацца, як усе дзяўчаты яго кахаюць, ну, проста жыць без яго не могуць. А ці будзе з яго добры муж і добры бацька? Не, гэта немагчыма. Будзеш сядзець у хаце, сказала сяброўка, і плакаць па начах, пакуль муж не вернецца з гулянкі. Вочы сабе выплачаш, і што з таго?

Сэрцайка! Не ведаю, ці была сяброўка шчырая. Мо яна проста зайздросціць мне такога хлопца? Вунь жа іншыя дзяўчаты, як зацяжараць, дык найчасцей толькі тады замуж выходзяць. А ці ўсіх ужо так страшна тыя хлопцы кахаюць?! Як пажэняцца, тады па-сапраўднаму пакахае: як муж жонку.

Проста не ведаю, якія аргументы маглі б на хлопца падзейнічаць, каб ён ажаніўся са мною. Мо яму паабяцаць, што пасля мы развядземся?

**Лідка**

Лідка! Твая сяброўка добра гаворыць. З такога свісталёпа добрага мужа не будзе. Тым больш цяжка спадзявацца, што будзе добрым бацькам дзіцяці. Я разумею цябе. Твой дзявочы гонар не дазваляе табе нарадзіць дзіця без мужа. Ды і сапраўды, лягчэй будзе прызнацца ва ўсім перад бацькамі. Але ж ты не маеш альтэрнатывы. Ён у твой бок нават не глядзіць. А калі і паабяцаеш яму, што пасля дасі развод, дык ён табе не паверыць, так як не паверыў у тое, што гэта дзіця яго.

Што датычыць цяжарных дзяўчат, якія выходзяць пасля замуж за сваіх хлопцаў, дык гэта ўжо справа звычайная. Але найперш трэба мець „свайго" хлопца ды ведаць, што ён цябе кахае і ў выпадку чагосьці заўсёды з табой ажэніцца. А ты мела хлопца ўсяго двухтыднёвага. Але не хвалюйся! Сёння — гэта невялікі грэх: нарадзіць дзіця дзеўкай. У некаторых заходніх краінах такіх дзяцей ужо не менш, чым тых, што маюць бацьку і маці. А мы ж усё-такі набліжаемся да Еўропы хуткімі крокамі.

**Сэрцайка**